# ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ



БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

CHURCH MESSENGER, P.O. BOX 5982, SOMERSET, N.J. 08875-5982

ГОД 21/27 | ВЯЛІКДЗЕНЬ 1999 | 1/47/57

## ВЯЛІКОДНАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ ЯГО МІЛАСЬЦІ ІЗЯСЛАВА БОЖАЙ ЛАСКАЙ МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ



ХРЫСТОС ВАСКРОС!

З Хрыстовым Устаньнем з Умерлых вітаю Вас Годнае Чэсьці Духавенства й Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе, дзе-б Вы ня былі Праваслаўныя Беларусы, што ў сэрцах горача да свае роднае Сьвятое Царквы імкняцеся, а яшчэ доступу да Яе ня маеце.

Мае Любыя! Дзень Хрыстовага Ўстаньня з Умерлых радаснае для ўсіх хрысьціянаў сьвята, бо Хрыстоваю крывёю быў змыты пачатны грэх людзкога роду, а праз Ягоную перамогу над сьмерцяй адчынены гэтаму роду шлях у рай ды вечнае жыцьцё.



Таму звычайна й адкладаюцца ў гэтае сьвята жыцьцёвыя клопаты ды адзначаецца яно гожымі адправамі й радаснымі сямейнымі ўрачыстасьцямі.

Гэткага вялікоднага сьвяткаваньня я й хацеў-бы пажадаць усім Вам, каб ня ведаў, што ў Вашых сэрцах радасьць муціць трывога за родны Край ды ўпэўненасьць на вечнае жыцьцё хістае безнадзейнасьць да будучыні нашага Народу.

У гэтым прыгнечаньні Вы падобныя да Хрыстовых вучняў, што дзень Ягонага Ўстаньня з Умерлых праводзілі ў суме, трывозе ды сумлевах.

Яны нават ня верылі словам жанчынаў, што досьвіткам нясьлі міра на Хрыстовую магілу, ды знайшлі яе адчыненай, а ад зьяўленага анґяла пачулі, што Ён устаў жывы.

Але, як ведаем, наш Збавец Ісус Хрыстос неўзабаве зьявіўся сярод іх Сам і нават няўвернаму Тамашу дазволіў улажыць пальцы ў Ягоныя раны, каб пераканаць, што гэта ня здань.

Ды ня толькі, каб пераканаць, што Ён жывы, зьявіўся Ісус Хрыстос вучням, але й, каб наставіць іх весьціць Ягоную Навуку, ды быць прыкладам іншым, як жыць паводле Яе.

І пайшлі гэтыя вучні ў сьвет весьцячы Ягоную Божую Навуку ды авалодалі праз Яе шматлікімі плямёнамі й народамі.

Мы, праваслаўныя хрысьціяне, таму так і называемся, што мы таксама хрыстовыя вучні, якім, аднак, на ўмацаваньне веры ня трэба ўкладаць пальцы ў Збаўцовыя раны, бо за намі два тысячагодзьдзі сьветчаньняў Ягонае Сілы й собскія дазнаньні Ягонае Ласкі.

Гэтаю няпераможнаю Сілаю наш Збавец Ісус Хрыстос заўсёды побач нас, а Ягоная Ласка ўвесь час з намі.

Таму, нават калі нас шчыльна абступаюць ворагі ды нашыя дагодныя Богу справы церпяць няўдачы, няма нам прычыны ўпадаць у роспач.

Затое трэба, пазнаўшы Хрыстовую Навуку, жыць паводле Ейных вымогаў ды весьціць Яе іншым.

Вымогі-ж гэтыя - любіць Бога найбольш за ўсё, ды свайго бліжняга як самога сябе.

Любасьць да Бога - гэта сума думак і паводзінаў, якімі мы заслугоўваем сабе годнасьць перад Ім ды Ягоную спагаднасьць.

Любасьць да бліжняга - гэта ўсе цёплыя пачуцьці, якія мы ўзгадоўваем у нашых сэрцах нятолькі да адзінак, што ўміляюць нашае жыцьцё, але й да супольнасьці, зь якое пайшлі на сьвет, ды сярод якое жывем.

Гэтай супольнасьцяй для нас, праваслаўных беларусаў, ёсьць Беларускі Народ, любіць які мы й павінныя ўсьлед за Богам.

Любасьць, аднак, як і вера, мёртвая бяз доваду ёй учынкамі і таму кожны з нас, як Хрыстовыя вучні, павінен нясьці свайму Народу Збаўцовую Навуку ды служыць прыкладам Ейнага ўжыцьцяўленьня.

Нясьці-ж гэтую Навуку нельга праз нячыстыя дзьверы ды заганнымі шляхамі чужынскіх гандляроў Божым Словам, а трэба йсьці зь Ёю да ўзнаўленьня на Бацькаўшчыне роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ды заклікаць да Ейнае адбудовы іншых.

Бо зь вешчанай у запраўды роднай Праваслаўнай Царкве Хрыстовай Навукай мы не дазнаем трывогі за наш Край ды ня ўведаем безнадзейнасьці за будучыню нашага Народу на гэтым сьвеце.

Ды будзем тады йсьці з нашым Народам у гэтую будучыню ўпэўненыя, што пераможам усе пагрозы, як Той, што перамог сьмерць ды

Запраўды Васкрос!

+ *Мітрапаліт Ізяслаў*
Першагерарх
Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

# НА ВЯЛІКДЗЕНЬ ДЫ НА БОЖЫ ДЗЕНЬ

(З ВАЛАЧОБНАЕ ПЕСЬНІ)

Вялікдзень у нашым Краі быў найважнейшым сьвятам у годзе. Пачуцьцё выдатнасьці сьвята йшло, бяз сумневу, зь веры што толькі Бог памёршы мог узноў устаць жывы, а праз гэта й з упэўненасьці, што ў Ягонай моцы ды ласцы ёсьць калісь і годных людзей узьняць з магілаў.

У маёй дзіцячай сьведамасьці, што стваралася ў абставінах жыцьця сьвятарскае сям'і, гэтая важнасьць сьвята значылася павагай падрыхтоўкі да ягонае сустрэчы, нямалое мейсца ў якой займала нятолькі ўсьцярога ад скаромнае ежы, але й узмоцненае патрабаваньне добрых паводзінаў, каб лішня не грашыць перад споведзяй й Сьв. Прычасьцем.

Узрастала асаблівасьць гэтае пары й ад урачыстасьці передвялікодных ды вялікодных адправаў.

Да перадсьвятняга ўздыму дадавалася, пэўна-ж, яшчэ й прыемнае спадзяваньне на новую адзежыну, ці абутак, што бацькі звычайна спраўлялі мне на весну, а да таго, нельга ўтаіць, і чаканьне багатага, як на той час, сьвятняга стала.





ХРЫСТОС ВАСКРОС!

З ХРЫСТОВЫМ УСТАНЬНЕМ
З УМЕРЛЫХ
ВІТАЕМ ДАБРАДЗЕЯЎ І ЧЫТАЧОЎ
"ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА"
ДЫ ЎСІХ ВЕРНІКАЎ БАПЦ!
УСІМ УПРАШАЕМ БОЖАГА ПРЫЯНЬНЯ
НА СЬВЯТНЮЮ РАДАСЬЦЬ,
МОЦНАЕ ЗДАРОЎЕ Й ПАМЫСНАСЬЦЬ
У ДОБРЫХ НАМЕРАХ!

Ад справункаў на гэты стол якраз і пачыналася запраўднае прыгатаваньне да сьвята.

У тыдні перад Вербніцай бацькі выпраўляліся на закупы патрэбных да вялікодных стравaў і печываў прадуктаў, ды прыправаў, сьпярша, калі жылі ў Шчары, у 22 км. далёкі Дзярэчын, а пасьля, калі перабраліся ў Парэчча, у адно 7 км. адлеглы Слонім.

Дзярэчын, калі бралі мяне з сабою, сустракаў нас і ўсіх прыездных з боку Курылавічаў высачэзным, абведзеным мурком, слупом сярод дарогі, на якім віднела рэштка нейкае фігуры, ці аздобы.

Няўводдаль, зь левага боку стаяў спусьцелы, за выйняткам аднаго крыла, дзе мясьцілася польская гміна, гожы яшчэ палац Сапегаў.

Далей, у сярэдзіне мястэтка быў рынак, дзе ў бок палацу стаяў яшчэ нейкі сапежынскі памятнік, а з другога йшоў рад мураваных крамаў, за якімі віднела вялікая й прыгожая мяйсцовая царква.

Разам з навакольнымі мураванкамі ўсё гэта стварала ўражаньне прывабнае й утульнае даўніны.

Гэтае архітэктурнае даўніны было поўна яшчэ ў тую пару й у Слоніме, ды апісваць яе тут замала мейсца.

Шкада толькі, што гэтага багацьця за вайну й савецкую адбудову ўжо амаль зусім ня стала.

Справункі, зь перапынкам на запіваны ў жыдоўскім заезьдзе чаям полудзень з дымленай рыбай, або шпротамі, ці балтыйскімі бычкамі, трывалі некалькі гадзін, за якія мама й тата накуплялі патрэбныя ім тавары, а мне таксама прыпадаў які-колечы гасьцінец, ці ласунак.

У сыботу перад Вербніцай дзед нарэзваў вярбовага гальля, зь якога я памагаў маме зладжыць і ўхарашыць папяровымі йстужачкамі вербы для нашае сям'і на асьвячаньне ў нядзелю.

Мама-ж да таго, як і перад кожнай нядзеляй, або сьвятам, пякла просфары.

У самую-ж Вербную нядзелю, падчас адправы, нельга было надзівавацца йз мноства гожа й багата ўквечаных жанчынамі й дзяўчатамі вербаў.

Пасьля адправы, ведама, было шмат сьмеху з жартаўлівага біцьця гэтымі вербамі з прымовай "не я б'ю, вярба б'е, за тыдзень Вялікдзень...".

З канца тыдня перад Вербніцай пачынаў падрыхтоўку да Вялікадня й мой дзед, а зь ім, калі жыў у нас часта безработны пры Польшчы, і дзядзька, выпрабоўваючы, ці як казалі "зубаючы", яйкі, што нясьлі нашыя куры, ды выбіраючы мацнейшыя на біткі.

Мама тымчасам пераглядала добра зачытаную ўжо "Літоўскую гаспадыню" ў расейскім перакладзе, ці папулярную тады кухарскую кнігу А. Малаховец, ды ёю самою сьпісаныя кулінарныя рэцэпты, каб канчаткова ўстанавіць, што будзе на сьвятнім стале.

Гэткім чынам панядзелак, аўторак і серада цярпеннага тыдня праходзілі даволі спакойна, бо ў царкве адправаў ня было, а ўдома кожны займаўся штодзённымі справамі, або сваёй часткай падрыхтоўкі да сьвята.

Пачуцьцё перадсьвятняе ўрачыстасьці, а зь ёю й падрыхтоўнае напружанасьці пачыналася ў Вялікі Чацьвер, калі мама рашчыняла першыя "мазуркі", ці іншае печыва, а на сутанку звон клікаў у царкву на 12 яванглельляў праз Хрыстовыя мукі.

У Вялікую Пятніцу абсяг кухонных прыгатаваньняў яшчэ большаў і мне ў іх таксама даставалася роля, ці насіць дровы ў хату, ці церці ў макотры яйкі з цукрам і маслам, дачаго я быў вялікі ахвотнік, бо, калі мама ня дзівілася нярaз аблізваў таўкача.

Напрацаваўшыся за дзень, перад сутанкам мы ўсёй сям'ёю узноў ішлі на вячорню ды йсьцеж з плашчаніцай вакол царквы ў канцы яе.

Вярнуўшыся з адправы й павячэраўшы, мужчыны йшлі спаць, а мама яшчэ доўга ўпраўлялася на кухні.

У Вялікую Сыботу рана бацька зь дзяком выпраўляліся служыць адправы й сьвяціць пасхі ў прыпісных парахвіях, г.зн. там, дзе былі цэрквы, але польскія ўлады не дазволілі мець асобнага сьвятара.

Гэткімі прыпіснымі парахвіямі, калі жылі ў Шчары, была Вялікая Воля, а быўшы ў Парэччы - Сынковічы, дзе палякі аддалі царкву вуніятам.

У хаце й каля хаты тымчасам пачынаўся сьпех, бо мама ў гэты дзень нятолькі дапякала бабкі й хрусьцікі, ды мяшала сырную пасху, але й пякла кумпяка ў цесьце, цяляціну й каўбасы, ды хварбавала яйкі.

Мне-ж прыпадаў абавязак замесьці панадворак ды пасыпаць усе сьцежкі жоўтым пяском, што дзед адумыслова на гэта прывозіў.

Бацька вяртаўся ўжо добра папаўдні й, калі ўсе пасілкаваліся, пачыналася пачарговае мыцьцё зь нястачы лазьні ў балеі на кухні, пасьля чаго бацька клаўся адпа-

чываць, а, патоўкшыся яшчэ крыху па хаце, сьледам за ім ішоў у ложак і я.

Дзед тымчасам "зубаў" капу, ці больш яек, што разам з лустамі хлеба й крыхай цяжкіх тады на здабычу грошай надавалі бацьку людзі за сьвячэньне пасхаў.

Выбраўшы, калі пашчасьціла, зь дзясятак мацнейшых, дзед хаваў іх на пазьней у мерцы збожжа, ды канчаў дзённы ўход за гаспадаркай, пасьля чаго таксама клаўся прыплюшчыць вочы.

Адна мама, як памятаю, ня мела часу адпачыць, бо калі канчала ўпраўляцца ўжо была пара йсьці ў царкву на Усяночную.

Бацька йшоў у царкву раней за нас, каля гадзіны 10-е, каб справіцца паспавядаць цэлыя чэргі тых, што не пасьпелі пайсьці да споведзі за цэлы пост.

Ня буду апавядаць праз Вялікодныя адправы, на якіх пашчасьціла быць, калі, як мне здаецца, гажэй за ўсіх іншых сьвятароў служыў бацька, але згадаць асабліва памятную з урачыстасьці Усяночную 1931-га году ў Шчары, думаю, варта.

Зімовая пара перад Вялікаднем, калі яшчэ ня было тэлебачаньня, радыя каштавала вялікія грошы, а кнігі йз усяе ваколіцы былі ўжо прачытаныя, цягнулася бясконца.

Каб скараціць гэтую бясконцасьць, дзесь пасьля Каляд 1931-га году дзядзька, што жыў у нас у той час, даў прапанову зрабіць на Усяночную фаервэрк.

Растлумачаная дакладней прапанова ўсім спадабалася й незадоўга мы ўзяліся за работу.

З лучыны й лазовага вецьця дзед змайстраваў з два дзясяткі асноваў ліхтароў, у якія, абляпіўшы іх каляровай паперай, устаўляліся сьвечкі.

Пасьля, паехаўшы ў Дзярэчын, накуплялі г.зв бэнгальскіх агнёў - у малы палец тоўстых, асаджаных на дратах зьліткаў нейкае масы, што запаленыя іскрыста гарэлі рознымі колерамі.

Да гэтага ўзялі зь дзясятак гліняных місак, у якія меліся накласьці клочча з газай ды запаліць для відна.

Апошнім закупам былі меркі салетры й серкі, якія трэба было зьмяшаць зь цертым вуглём й пазакручваць у ганучкі на бахалкі, або, як іх зрасейска звалі "шашкі".

Праз тыдзень перад Вялікаднем дзядзька выбіраў і рыхтаваў каля царквы мейсцы на фаервэркавыя налады - чапляў крукі на ліхтары, ставіў падстаўкі на місы з газаю, пераносіў камяні туды, дзе мяркаваў біць бахалкі ды з падросткаў зьбіраў сабе памочнікаў.

Уся падрыхтоўка дала добры вынік - ліхтары й місы з газаю, ды клочам былі запаленыя якраз перад тым, як з царквы рушыў крыжны йсьцеж, бэнгальскія вагні іскрыліся ў руках хлапцоў, што йшлі абапал харугваў і хору, ды сьвятара, а дзядзька бягучы паперадзе молатам біў па пакладзеных на камяні бахалках, што разрываліся зь вялікім грукатам.

Ад фаервэрку й ад запаленых у руках маленьнікаў сьвечак каля царквы зрабілася відно, як удзень, ад чаго, разам із сьпевамі добра падрыхтаванага хору ў душы на ўсё жыцьцё засталося ўражаньне, што гэта запраўды быў Дзень, які стварыў наш Гаспадар, каб радавацца й весяліцца ў ім.

Дзівотныя Вялікодныя адправы, пры мностве прычасьнікаў, трывалі аж пачынала віднець і тады вакол царквы разгортваўся вянок лубак і кошыкаў з заткнёнымі ў пірагі сьвечкамі, яйкамі, сырамі й каўбасамі, які бацька абходзячы асьвячаў.

Фаервэрк, нажаль, не абыйшоўся бяз нечаканых вынікаў, бо дзядзьку аськёпкі ад каменьня пасеклі лоб, а польскія паліцыянты жаліліся, што іх загадзя не паведамілі й пачуўшы стрэлы, яны ў трывозе гналіся поначы самакатамі зь сем кілямэтраў далёкіх Курылавічаў.

Пасьля адправаў удома былі лёгкія разговіны, бо больш як есьці хацелася спаць.

Аддыхнуўшы палуднавалі крыху мацней, але галоўнае застольле адбывалася ўвечары, калі зьяўляліся госьці.

Да тае пары я пасьпяваў зьбегаць на сяло, дзе каля высачэзнае гойдалкі, якую дзяцюкі ставілі на кожны Вялікдзень, была ўжо зыйшоўшыся немалая грамада моладзі, што пяяла, жартавала й па чарзе ўзьлётвала на гойдалцы ўпоравень з гуменнымі стрэхамі.

Побач ішлі ўжо першыя бойкі на біткі, што, каб ня было падману, пачыналіся йз узаемнага вывервання яёк, асьцярожнага падстаўляньня чубка, ці пяткі яйка, каб супрацень ня выцяў збоку, ды ўсёроўна часта канчаліся спрэчкамі й зьвінавачаньнямі.

Падвечар з гэтых гульняў даводзілася сьпяшаць на вячорню, пасьля якое вакол царквы далей ішлі бойкі на бітку, што паўтараліся ў кожнае сьвята ажно да Юр'я.

Дзед і дзядзька былі майстрамі ў гэтай справе й звычайна прыносілі дахаты немалую здабычу

Калі ўжо вечарэла, зыходзіліся госьці й пачыналася запраўднае вялікоднае застольле, да якога мама ставіла на стол усе прыгатаваныя стравы й прысмакі, а бяседнікі ядучы хвалілі ейнае кухарскае умецтва.

Завяршэньнем сьвятога дня былі, аднак, валачобнікі, што зьяўляліся за гасьцьмі ды зладна прасьпеўвалі сьпярша колькі пабожных вялікодных песьняў, а пасьля заводзілі жартаўлівыя прысьпеўкі гаспадару, гаспадыні й "панічу" (г.зн. мне), ды па чарзе ўсім гасьцям.

Гэтае валачобніцкае ўмецтва складаць падыходныя да кожнага з застольнікаў словы вельмі мяне ўражвала.

Мама, у падзяку за віншаваньні, шчодра абдорвала іх вялікоднай спажывай ды й госьці скідаліся грашыма.

З адыходам валачобнікаў сьвятні настрой неяк разьвейваўся й пачастунак абяртаўся ў звычайную гасьціну.

Калі ўжо ўсё прыгатаванае, было пададзенае на стол і ўсё вартае ўвагі было абгаворанае, госьці разыходзіліся, ды ўсе ў хаце, апрача мамы, ішлі адпачываць.

У вушах, аднак, аж покуль змарыў сон гучэлі звонкія валачобныя песьні.

Эх, каб пачуць іх яшчэ калі на гэтым сьвеце!

Барыс Данілюк

## ПЕРШ СЬВІТАНЬНЯ

Перш Вялікоднага Сьвітаньня
Былі прасьбы у Гэтсэмане,
З умерлых папярод Устаньня
Боль давяло цярпець кананьня.

Бо каб здабыць вянец зараны
Крыж трэба ўзьняць сваймі плячамі;
Няма нікому зьмілаваньня
Бязь веры, любасьці й ўпрашаньня.

Дык Богу словячы ўпрашаньні
У нашым моўма мы зьвяртаньні,
Як Сын Ягоны ў Гэтсэмане:
Твая хай Воля, Войча, стане!

*Пераказ з ангельскае мовы верша няведамага аўтара.*

**ЧЫТАЙЦЕ Й ПАШЫРАЙЦЕ "ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА", АДЗІНЫ ЧАСАПІС ПРЫСЬВЕЧАНЫ ІДЭІ БЕЛАРУСКАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ!**

# АРХІЯПІСКАП СЯРГЕЙ АХАТЭНКА

**1890** (ДА 50-Х УГОДКАЎ УЗНАЎЛЕНЬНЯ БАПЦ) **1971**



Пачатая ў другой палове 1940-х гадоў зь вялікім уздымам вернікаў справа ўзнаўленьня дзейнасьці Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы патрабавала на ейнае ўжыцьцяўленьне, апрача напалу пачуцьцяў, яшчэ й веды, ды дазнанасьці ў царкоўным жыцьці на архіпастырскім узроўні, якіх ніхто сярод беларускае эміграцыі ня меў.

З увагі на гэта пачынальнікі ўзнаўленьня зьвярнуліся да Сабору Япіскапаў Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Цаквы з просьбай нятолькі ўсьвяціць япіскапа беларуса, але й адпусьціць на часовае кіраўніцтва БАПЦ аднаго з украінскіх япіскапаў.

З дазволу Сабору Япіскапаў УАПЦ гэты крыж узяў на сябе япіскап Сяргей Ахатэнка (Сергій Охотенко), узвышаны з гэтае прычыны ў архіяпіскапа.

Сьв. пам. Архіяпіскап Сяргей нарадзіўся 12 сакавіка 1890-га году ў сялянскай сям'і ў сяле Малыя Гарошкі, Жытомірскага павету.

Скончыўшы 14 год жыцьця ён із згоды бацькоў пайшоў у Богааб'яўленскі манастыр у Жытоміры, дзе ў 1919-м годзе быў пастрыжаны ў манаскі стан ды, наведваючы пастырскія курсы, выконваў абавязкі аканома мяйсцовага архірэйскага дому.

У 1925-м годзе архіяпіскапам Васілём Багдашэвічам быў усьвячаны ў яраманаха, а ў 1932-м узвышаны ў годнасьць архімандрыта.

Пастырскія абавязкі выконваў на парахвіях у Карасьцені, Народзічах, Эмільчыцах ды Куляшах.

Падчас масавых арыштаў у 1937-м годзе быў увязьнены ды засланы на прымусовую працу на рыбных промыслах у Бярдзянску.

З Божае ласкі выйшаўшы падчас вайны йзь зьняволеньня ён быў пастаўлены на настаяцеля сабору ў месьце Мэлітопалі.

У япіскапа Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы быў усьвячаны архіяпіскапамі Міхаілам (Харошам) і Генадзям (Шыпрынкевічам), ды япіскапам Уладзімерам (Мальцам) 1-га жніўня 1943-га году ў грэцкім катэдральным саборы ў месьце Кіравагрaдзе (Елісаветградзе).

Незадоўга пасьля гэтага перад наступам савецкае арміі япіскапат УАПЦ эвакуаваўся ў Нямеччыну.

Затрымаўшыся падарозе ў Польшчы япіскап Сяргей атрымаў ад Мітрапаліта Варшаўскага Дзяніса пасьветчаньне кананічнасьці ягонае хіратоніі й прыналежнасьці да япіскапаў Сьв. Усяленскае Праваслаўнае Царквы.

У Нямеччыне Уладыка Сяргей затрымаўся ў месьце Канстанцы, каля швайцарскае мяжы, дзе пасьля заканчэньня вайны зарганізаваў асяродак УАПЦ.

Той парою беларуская эміграцыя ў Нямеччыне перажывала цяжкі духовы крызыс, бо япіскапат Праваслаўнае Беларускае Аўтакефальнае Царквы зрадзіў аўтакефалію й улучыўся ў Расейскую Зарубежную Царкву.

У пошуках ратунку з гэтае бяды Міколу Дзямідаву, а ўсьлед і дру. Віктару Войтанку пашчасьціла пазнаёміцца з Архіяпіскапам Сяргеям, ды з гэтага знаёмства нарадзілася думка ўзнаўленьня дзейнасьці БАПЦ, якую ачоліў-бы гэты архіпастыр.

Зь ягонае згоды прадстаўнікі беларускіх праваслаўных вернікаў зьвярнуліся да Сабору Япіскапаў Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы з просьбай адпусьціць яго й дазволіць абняць абавязкі Першагерарха БАПЦ.

Просьба была здаволеная й 5-га чырвеня 1948-га году ў створаным Уладыкам Сяргеям царкоўным асяродку ў Канстанцы адбыўся Сабор беларускіх праваслаўных вернікаў і духавенства, што прыйняў і абвесьціў пастанову аб узнаўленьні дзейнасьці БАПЦ.

Неўзабаве сярод вернікаў БАПЦ знайшоўся, як мы пісалі ў папярэднім нумары "ЦП", і кандыдат на япіскапа - інж. Уладзімер Тамашчык, што прыйняў манаскі пострыг ды пачаў здабываць багаведную асьвету.

Не зважаючы на вялікія цяжкасьці. адчыніліся й першыя парахвіі БАПЦ, сьпярша ў Тюбінген, а пазьней у Мюнсінген у францускай акупацыйнай зоне ды ў Розэнгайме ў амэрыканскай.

Урэшце, 19-га сьнежня 1949-га году, у Розэнгайме адбылася хіратонія архімандрыта Васіля ў япіскапскую годнасьць ды ў БАПЦ, як і ў іншых праваслаўных цэрквах, зайснаваў упраўны ворган - Сабор Япіскапаў.

Неўзабаве, аднак, у выніку міжнародных пагадненьняў, пачалося перасяленьне ваенных уцекачоў у заморскія краіны й беларускія асяродкі ў Нямеччыне пачалі зьнікаць.

З увагі на гэта Сабор Япіскапаў БАПЦ пастанавіў, што Архіяпіскап Сяргей паедзе абняць духовую апеку над праваслаўнымі беларусамі ў Аўстраліі, а Япіскап Васіль, перасяліўшыся ў ЗША, абыйме гэткую-ж апеку над вернікамі БАПЦ у Амэрыцы, Канадзе й Эўропе.

Нажаль, зь нястачы беларускіх праваслаўных асяродкаў і беднасьці новапрыбылых вернікаў БАПЦ у Аўстраліі Уладыка Сяргей апынуўся там у страшэнных жыцьцёвых умовах, калі над галавою ня было шчыльнае страхі, а на стале не ставала й хлеба.

Нястачы, аднак, не зламалі гэтага ўжо пры савецкай уладзе спакутаванага архіпастыра й ён ахвярна працаваў, каб пачаць дзейнасьць БАПЦ на далёкім кантынэньце.

Дзякуючы ягонай рупнасьці ды адданасьці ідэі аўтакефаліі беларускіх праваслаўныв вернікаў незадоўга ў новай краіне іхнага асяленьня стварыліся парахвіі БАПЦ у Адэляйдзе й Мэльбурне.

З Божае ласкі папраўіліся й жыцьцёвыя абставіны Уладыкі, бо пад ягоную апеку перайшло некалькі грэцкіх парахвіяў, што нятолькі памаглі забясьпечыць яго матарыяльна, але й далі магчымасьць займець прэстыжны катэдральны сабор.

Дадатковыя абавязкі, аднак, не адцягнулі ўвагі Архіяпіскапа Сяргея ад справаў БАПЦ і ён прысьвяціў яе павялічэньню ліку Сабору Япіскапаў ды таму, не зважаючы на павучэньні эміграцыйнага начальства, з запрошанымі кананічнымі архірэямі ўсьвяціў у япіскапскую годнасьць сьпярша архімандрыта Андрэя (Крыта), а пасьля Мікалая (Мацукевіча).

Памёр сьв. пам. Архіяпіскап Сяргей 2-га кастрычніка 1971-га году ў Адэляйдзе, што ў Аўстраліі, і пахаваны там на грэцкіх могілках.

Згодна зь ягонай воляй ён быў пахаваны, як калісь праваслаўныя патрыярхі, седзячы на пасадзе з узьнятай да знаку ласкі рукою ў адумыслова зробленай дамавіне.

Вернік

# 500 ГОД СУПРАСЬЛЬСКАЕ ЛАЎРЫ



На заходнім ускраі нашае зямлі, што пасьля вайны, каб загарадзіць Беларусі доступ да мора, быў аддадзены Польшчы, знаходзіцца мястэчка Супрасьль, а ў ім слаўная калісь ды зруйнаваная бязьлітаснымі падзеямі нашае гісторыі Супрасьльская Праваслаўная Лаўра.

Сёньня, хоць яна ўжо не называецца лаўрай, а адно манастыром, з доранае Богам усьмешкі гісторыі пачалася адбудова гэтае вернутае праваслаўным нашае нацыянальнае сьвятыні, а нядаўна насталі й 500-я ўгодкі ейнага існаваньня.

Манастыр быў заснаваны ў 1498-м годзе ў Гарадку ягоным фундатарам Аляксандрам Хадкевічам, Навагрудзкім ваяводам і маршалкам Вялікага Княства Літоўскага.

Паводле пераказу першымі насельнікамі манастыра былі манахі з Афону, што паходзілі няйнакш як із славянскіх земляў.

Паводле таго-ж пераказу спачатку прызначанае на манастыр мейсца манахам ня прыйшло даспадобы й яны, з дазволу фундатара, пусьцілі на рэчку крыж із сьвятасьцямі ды, калі той стаў ля берага ў супрасьльскім урочышчы Сухі Груд, там пачалася будова манастыра.

Неўзабаве пасьля гэтага была ўжо пастаўленая драўляная царква Сьв. Яна Багаведа й першыя манастырскія будынкі.

У 1501-м годзе пачалася будова мураванае царквы Дабравешчаньня Божае Маці, што была скончаная й асьвячаная ў 1510-м, або 1511-м годзе.

Сьвятыня была пабудаваная ў абаронным стылі, што на Беларусі выявіўся яшчэ ў царкоўных будынках у Сынковічах, Маламажэйкаве й Полацку.

У ейнай архітэктуры зьліліся ўплывы бізантыйскага стылю й заходня-эўрапэйскага готыку.

Вялікім дабрадзеем, а разам і закладнікам Супрасьльскага манастыра быў тагачасны архіяпіскап, а пазьней Кіяўскі мітрапаліт Язэп Солтан, што ў 1503-м годзе справіў для новапабудаванае царквы копію дзіватворнае Смаленскае Іконы Божае Маці.

Апрача таго мітрапаліт Солтан абдарыў манастыр яшчэ зямельнымі майнасьцямі Тапілец, Бацюты й Пішчава.

Пазьней Аляксандар Хадкевіч аддаў на манастыр атрыманую ў спадчыне па бацьку Харошчу.

Шчырай ды шчодрай апякункай манастыра была й жонка вялікага князя Казімера Ягайлавіча - Алёна, што не зраклася ейнае праваслаўнае веры.

У 1505-м годзе фундацыю манастыра зацьвердзіў ягоным адумысловым томасам Канстантынопальскі патрыярх Якім.

Першым намесьнікам (ачольнікам) манастыра быў ігумен Пахнуці (Сегень), што паходзіў з багатае мяшчанскае сям'і зь Бельска (Падляшскага).

Найбольшы росьцьвіт манастыр асягнуў, калі яго ачольваў ігумен Сяргей Кімбар (1532-1565), што за заслугі быў узвышаны ў годнасьць архімандрыта.

У гэтую пору была пабудаваная велічная царква Хрыстована Устаньня з Умерлых ды пад ёю крыпта з 132-ма нішамі на пахаваньне манахаў, а Дабравешчанская царква была аздобленая дзівотнымі фрэскамі.

Апрача таго архімандрыт Кімбар падпісаў зь вільнянскім дойлідам Мікалаям Кошкіным умову паставіць у манастыры вялікую пасілковую (трапезную) капліцу - дом малітвы, ды іншыя гаспадарчыя будынкі, як кухні й сьпіжарні зь піўніцамі, што былі скончаныя дзесь каля 1557 г.

Гэткім чынам Супрасьлскі манастыр стаў найбольшым праваслаўным рэлігійным асяродкам у Вялікім Княстве Літоўскім ды пачаў называцца лаўрай.

Займаючы першае мейсца сярод манастыроў краю, Супральская лаўра была ў ім нятолькі галоўным апірышчам праваслаўнае веры сярод каталіцкага накоту, але й цьвярдыняй нацыянальнае апрычонасьці ды культуры насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага.

У 1582-м годзе лаўру наведаў праваслаўны патрыярх Сэрбіі й Баўгарыі Гаўрыла ды узнагародзіў архімандрыта мітрай.

У 1589-м годзе ў лаўру заехаў сам Канстантынопальскі патрыярх Ярэма й падпарадкаваў яе непасрэдна сабе.

Нажаль, пасьля амаль 100-гадовага росьцьвіту лаўру чакала ліхалецьце, што прыйшло з вуніяй.

У 1596-м годзе на саборы ў Берасьці архімандрыт Гіляр Масальскі з манаствам лаўры не згадзіўся падпарадкавацца вуніяцкаму мітрапаліту, за што быў выгнаны за межы дзяржавы.

Зламаны выгнаньнем пазьней ён вярнуўся й падпарадкаваўся прымусу.

За апеку над лаўрай доўга яшчэ ды, нажаль, бязвынікова змагаўся супраць вуніяцкага мітрапаліта й род Хадкевічаў.

Сіла каталіцкае дзяржаўнае ўлады, як ведама, перамагла ды лаўра была абернутая ў вуніяцкі манастыр падпарадкаваны вуніяцкаму мітрапаліту.

У 1635-м годзе ў манастыры быў уведзены ўстаў вуніяцкага ордэну Базыльянаў, паводле якога, між іншым, манастырскага ачольніка ўжо ня выбіралі манахі, а прызначаў, або быў ім сам вуніяцкі мітрапаліт.

Гэткім чынам ранейшая цьвярдыня праваслаўя й нашае нацыянальнае апрычонасьці стала маленькім колцам у вялізарнай машыне Каталіцкага касьцёлу, што працавала на польскія інтарэсы.

Матарыяльна, усё-ж, манастыр яшчэ даволі доўга мацнеў - у 1645-1652-м гадах у ім быў пабудованы з.зв. архімандрытаў палац, у Дабравешчанскай царкве пастаўлены багаты барокавы іканастас, а колькі год пазьней закладзеная друкарня, прыбыткі зь якое з часам дазволілі збудаваць колькі новых манастырскіх будынкаў ды ўездную браму.

Варта ўспомніць, што за час існаваньня Супрасьльскае манастырскае друкарні, у ёй было надрукавана 77 выданьняў кірыліцаю, што, паводе колькасьці гэткіх выданьняў, ставіць яе на другое мейсца пасьля Вільні (154) ды ўперадзе Магілёва (55).

З канчатковым упадам Рэчыпаспалітае прыйшоў, аднак, канец і на матарыяльную забясьпечанпсьць манастыра ды пачалося ягонае руйнаваньне.

У выніку бо трэйцяга падзелу Супрасьль быў аддадзены Прусыі, урад якое ў 1596-м годзе сканфіскаваў манастырскія землі.

Каб здабыць сродкі на ўтрыманьне манастыра, архімандрыту Ільву Яворскаму давялося арандаваць ранейшыя манастырскія землі ад прускага ўраду прыватна.

Вялікай стратай была таксама прымушаная, пад пагрозаю канфіскацыі, продаж друкарні каралеўскаму друкару, за якую той усёроўна ніколі нічога не заплаціў.

Пасьля Тыльзытскага міру Супрасьль перайшоў да Расеі, але матарыяльнае становішча манастыра на лепшае не зьмянілася, бо ягоныя зямельныя валоданьні зьменшыліся да двох хвальваркаў, а ўсе будынкі патрабавалі неадкладнага рамонту.

Да гэтага ў манастырскіх будынках доўга знаходзіўся вайсковы шпіталь, а ў 1833-м годзе большасьць зь іх, разам з архімандрытавым палацам, была аддадзеная ў арэнду Вільгэльму Зэхэрту, што заснаваў у іх суконную мануфактуру.

Сьледам за ім зьявіліся й іншыя прамыслоўцы, што пазакладалі яшчэ больш ткацкіх хвабрыкаў й у 1846-м годзе ў Супрасьлі было 13 гэткіх прадпрыемстваў ды працавала ў іх каля 1000 работнікаў.

Нажаль, для манастыра гэта абярнулася не ў карысьць, а ў шкоду, бо Зэхэрт адсудзіў ад яго архімандрытаў палац і паўдзённае крыло будынкаў ды, разам зь іншымі прамыслоўцамі, пачаў навозіць на работу чужынцаў, у выніку чаго значна зьмяніўся нацыянальны склад насельніцтва мястэчка.

Для гэтага наезднага элемэнту Зэхэрт пабудаваў каталіцкі касьцёл і лютаранскі збор.

Не палепшыла манастырскіх справаў і ліквідацыя вуніі ў 1839-м годзе ды пераход манастыра пад уладу Расейскае Праваслаўнае Царквы, бо даўнейшае рэлігійнае ды нацыянальнае значаньне лаўры ўжо не вярнулася, а стала яна адным із шматлікіх правінцыянальных манастыроў расейскае імпэрыі.

Жыцьцё ў манастыры, пэўна-ж, не спынілася й манахі саматугам паправілі дах Дабравешчанскае царквы, крыху зьмяніўшы пры гэтым форму ейных вежаў, а ў сярэдзіне адкрылі большасьць замалёваных фрэскаў.

Узнавіла дзейнасьць і друкарня.

У 1875-м годзе на праваслаўным (сёньня каталіцкім) магільніку была пастаўленая драўляная царква сьв. вялікамучаніка Панцялеймана.

У 1889-1890 гадох на манастырскай плошчы была збудаваная з чырвонае цэглы новая царква сьв. Яна Багаведа, што сёньня ўзноў служыць манахам і вернікам.

Дваццатае стагодзьдзе, нажаль, прынясло манастыру найгоршыя за час ягонага існаваньня беды.

Першай зь іх у 1915-м годзе была прымусовая эвакуацыя (бежанства) манахаў і манастырскіх сьвятасьцяў, ды каштоўнасьцяў у глыб Расеі.

З гэтага вывазу ніводная йз тых сьвятасьцяў ды каштоўнасьцяў, у тым ліку й Супрасьльская Ікона Божае Маці, ужо ніколі не вярнулася.

Невялікі-ж лік манахаў ды масу праваслаўных вернікаў, што на родныя землі вярнуліся, чакала прыгнётнае жыцьцё пад варожай да іхнага беларускага паходжаньня, ды веры й царквы польскай акупацыйнай уладай.

Ейную варожасьць гэтая чужынская ўлада не замарудзіла паказаць на практыцы ды, як доўга існавала, тае практыкі ня спыняла.

Ужо 18-га жнівеня 1919-га году польская ўлада, вызнаўшы Супрасьскі манастыр за парасейскую маёмасьць, што належыць да дзяржаўнага скарбу, зачыніла й запячатала царкву Дабравешчаньня Божае Маці.

У 1922-м годзе манастырскія будынкі былі перададзеныя сельскагаспдарчай школе, а два гады пазьней загадам ваяводы зь іх быў выдалены апошні манах.

Побач з гэтым у Супрасьлі ня было дазволена зарганізаваць праваслаўную парахвію, ані нават адчыніць філіяльную царкву.

У 1926-м годзе на загад паветавага старасты была зачыненая царква сьв. Яна Багаведа.

4-га кастрычніка 1927-га году першую лацінскую імшу ў царкве Дабравешчаньня Божае Маці адправіў арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі й, хоць фармальна сьвятыня належала да дзяржаўнага скарбу, перадаў ключы ад ейных дзьвярэй мяйсцоваму каталіцкаму пробашчу.

У 1935-м годзе каталіцкі манаскі ордэн салезыянаў на ўладжаньне ўзгадавальнага асяродку ўзяў у арэнду два будынкі й 21 гактар манастырскае зямлі, а ў 1937-м, зьняў крыжы з царквы сьв. Яна Багаведа ды, перанёсшы царкоўныя прылады ў народны дом, абярнуў яе ў спартовую залю.

У 1938-м годзе Акруговы Суд у Беластоку адкінуў дамаганьне Горадзенскае Кансысторыі вярнуць Супрасьльскі манастыр Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве.

Займо заходняе Беларусі ў 1939-м годзе бязбожнай савецкай дзяржавай прынясло манастыру яшчэ горшае зруйнаваньне.

Дабравешчанская царква была абернутая ў мэханічную майстэрню й кузьню, а ейны іканастас спалены.

У царкве сьв. Яна Багаведа была ўладжаная кухня й харчоўня.

Заняўшы Беларусь у 1941-м годзе й далучыўшы Беласточчыну да іхнага Райху немцы, аднак, дазволілі праваслаўным маліцца ў царкве сьв. Яна Багаведа, а ў 1942-м вярнуцца ў манастырскія муры старым манахам.

Неўзабаве, нажаль, манастыр дазнаў найстрашнейшае гора, бо, як кажуць, немцы, адступаючы ў 1944-м годзе пад націскам савецкае арміі, узьвярнулі дынамітам Дабравешчанскую царкву й некалькі прылеглых будынкаў.

Пасьля вайны, Сталін, асьцерагаючыся ўздыму беларускіх нацыянальных пачуцьцяў, замест каб даць найбольш скрываўленай, але, быццам, пераможнай Беларусі доступ да мора, адрэзаў ад яе Беласточчыну ды аддаў Польшчы.

Гэткім чынам на заходні ўскрай нашае зямлі вярнулася чужая, хоць афіцыйна й прамаскоўская, але далей варожая да беларускасьці й праваслаўя польская ўлада.

Ужо ў 1944-м годзе гэтая ўлада аддала каталікам царкву сьв. вмч. Панцялеймана на "старым могільніку", а ў 1945-м выдаліла з манастыра праваслаўных манахаў.

У 1948-м годзе, на падставе перадваеннае ўмовы манастыр узноў абняў ордэн салезыянаў.

Пазьней ягоныя будынкі займала сельска-гаспадарчая школа.

У 1955-м годзе праваслаўныя былі выдаленыя йз царквы сьв. Яна Багаведа, а два гады пазьней пачалося разьбіраньне ейных муроў, што на шматлікія пратэсты было, аднак, спыненае.

Толькі пасьля палітычнае адлігі ў 1958-м годзе праваслаўныя атрымалі права займець у Супрасьлі парахвію ды была ім вернутая царква сьв. Яна Багаведа.

Справа самога манастыра засталася, аднак, неразьвязанай і за ейнае справядлівае для праваслаўных завяршэньне ім давялося яшчэ змагацца амаль тры дзесяцігодзьдзі.

У пачатку 1980-х гадоў гэтае змаганьне, усё-ж, дало посьпех і ў 1984-м Дабравешчанская царква была вернутая, ды пачалася ейная адбудова.

Увосені таго-ж 1984-га году ў манастырскіх мурох быў створаны манаскі дом, а ў 1989-м узноўлены мужчынскі манастыр Дабравешчаньня Божае Маці.

Каталіцкі касьцёл, аднак, ягоных прэтэнзыяў да манастырскае маёмасьці ня спыніў ды аспрэчыў ўрадавую пастанову з 1993-га году вярнуць праваслаўным частку будынкаў.

Даведаўшыся праз гэткі несправядлівы паварот справаў Першагерар Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае

## ПСАЛЬМ 145
(ПЕРАКАЗ)

Хвалі мая душа Гаспадара!
Гаспадара я ўсьцяж хваліцьму,
Пяяці Богу буду бяз суйма,
Як доўга тут на сьвеце жыцьму.

Надзеі не здавайце на князёў -
Няма ў людзей каб збавіць рады:
Адыйме дух й абернуцца ў гнільлё
Й намеры іхныя прападуць.

Шчасны, каму шчадрыць Якубаў Бог,
Бо на Таго ён спадзяецца,
Зь Яго зямля ды неба што пайшло
Ды моры з тым, што ў іх вядзецца.

Спадзеву Ён ніколі не зьвядзе,
Падкрыўдным правы суд ўчыняе
Ды корміць хлебам тых, што у бядзе
Й палонным волю Ён вяртае.

Пагляд вяртае Гаспадар сьляпым,
Узноў упалых падыймае
Ды прыйшлым здалі падае прыпын,
Сірот і ўдоваў ўспамагае.

Праведным любіць Гаспадар прыяць
Й вядзе нягодных шлях да зводу;
Усьцяж будзе Гаспадар уладаваць,
Сыёнаў Бог Ён назаўсёды.

Царквы Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў у 1994-м годзе накіраваў да наглядных над вонкавымі дачыненьнямі амэрыканскіх кангрэсавых і ўрадавых дзеячоў лісты з высьвятленьнем становішча беларускае меншасьці ў Польшчы, а разам і пытаньня Супрасьльскага манастыра, ды з просьбай дапамогі пакрыўджаным.

На лісты былі атрыманыя прыхільныя адказы, нятолькі ад кангрэсавых прадстаўнікоў, але й ад Дзяржаўнага Дэпартаманту ЗША, з абяцаньнем зьвярнуць увагу польскага ўраду на закранутыя Першагерархам БАПЦ праблемы ды патрабаваць іхнага справядлівага заладжаньня.

Ня можа быць сумневу, што зьвернутая польскаму ўраду амэрыканскімі ўладавымі дзейнікамі ўвага на крыўды, якія дазнае беларуская праваслаўная меншасьць, у значной меры была й прычынай, што прымусіла гэны ўрад ў лютым 1996-га году ўрэшт канчаткова аддаць усе манастырскія будынкі Польскай Праваслаўнай Царкве.

Сёньня Супрасьльскі манастыр далей адбудоўваецца й ёсьць надзея, што паволі вернецца да годнага стану.

У ім цяпер, разам з паслушнікамі, 14 манахаў, якіх ачольвае Супрасьльскі япіскап Якуб.

Манахі, апрача малітваў, займаюцца працамі пры адбудове Дабравешчанскае царквы й рамоньце манастырскіх будынкаў, ды выкладаюць рэлігію ў школах.

Сярод іх, а. Гаўрыла, ёсьць знаўцом зёлкавага аздараўленьня, за дапамогай да якога прыяжджаюць людзі нават зза мяжы.

Прадбачыцца ўзнаўленьне манастырскае друкарні.

Увосені мінулага году, у выніку зьмены арыентацыі Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, манастыр адведаў Канстантынопальскі патрыярх Баўтрамей I.

Рэлігійна-нацыянальныя роля й значаньне манастыра, якія ён меў у пару абароны праваслаўя ў Вялікім Княстве Літоўскім, нажаль, няма веры, каб вярнуліся.

На перашкодзе гэтаму стаіць і дзее, анты-беларускае настаўленьне ПАПЦ ды ейная руса-палянізатарская палітыка.

Б. Красналец

## СУСТРЭЧА З ПАТРЫЯРХАМ УКРАІНСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

У канцы сьнежня мінулага й напачатку 1999-га году ў ЗША гасьціў Патрыярх Кіяўскі й Усяе Украіны Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Яго Сьвяцейства Сьвяцейны Зьміцер (Дымытрій).

Патрыярх наведаў Украінскі Праваслаўны Цэнтр у Баўнд Брук, Н.Дж. і некалькі іншых украінскіх асяродкаў, ды ўстановаў.

У падарожжы суправаджаў яго ВПСВ. Ігар, Архіяпіскап Харкаўскі й Палтаўскі, што кіруе справамі Патрыярхату.

З нагоды побыту высокіх гасьцей у ЗША 1 студзеня 1999-га году ў Самэрсэт, Н.Дж. адбылася сустрэча зь імі Першагерарха БАПЦ Я. М. Мітрапаліта Ізяслава, пры якой быў прысутны сакратар Кансысторыі БАПЦ сп. Барыс Данілюк.

Падчас сустрэчы ў сардэчнай і шчырай гутарцы дастойныя Уладыкі працягам пары гадзінаў знаёмілі адзін аднаго йз справамі іхных Цэркваў ды абставінамі царкоўнае дзейнасьці на іхных Бацькаўшчынах.

Пры цёплым разьвітаньні Уладыкі ўзаемна паабяцалі ўзмацоўваць лучнасьць ды разьвіваць супрацоўніцтва паміж ачоленымі імі сястрынымі Цэрквамі.

## ПАРАХВІЯЛЬНЫ СХОД У БРУКЛІНЕ

У нядзелю, 28-га лютага г.г., пасьля Сьв. Літургіі ў парахвіяльнай залі адбыўся Гадавы Справаздачны Сход Парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

Сход пачаўся малітвай і заклікам Божага прыяньня прысутным, якое змовіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

Справаздачу зь дзейнасьці Парахвіяльнае Рады пачаў ейны старшыня др. Расьціслаў Гарошка ды, як кіраўнік рамонтных працаў, апавёў аб іхных выніках.

Бяручы на ўвагу, што ўсе працы выконваліся дабрахвотна, гэтыя вынікі немалыя, бо была палепшаная кухня, аднаўленая жаночая прыбіральня, у падвале замест зьгнілое зацягнутая новая бэлька, пастаўлены паркан ад суседаў з правага боку будынку, а сьпераду пачатае маляваньне жалезнага плоту ды абкладзеныя цаглянымі рубцамі дрэвы ў ходніку.

Зробленая дамоўленасьць з майстрамі пакрыць будынак новай страхой ды йдзе далей пошук адумыслоўцаў, каб за памяркоўную цану атынкаваць заднюю сьцяну.

Скарбнік Парахвіяльнае Рады, сп. Юры Васілеўскі прадставіў сходу падлік прыбыткаў і выдаткаў парахвіі, што летась дзеля большае актыўнасьці парахвіі з аднаго боку й павялічаных выдаткаў з другога, значна ўзрасьлі.

Нажаль, дзеля зьмены пакаленьняў у складзе парахвіянаў упаў збор гадавых складкаў, які сп. Васілеўскі запрапанаваў неадкладна ўзнавіць.

Сакратар Парахвіяльнае Рады й радактар "Царкоўнага Пасланца" сп. Барыс Данілюк сказаў прысутным, што часапіс цяпер друкуецца ў ЗША й на Бацькаўшчыне, ды разсылаецца па ўсім сьвеце, а ягоны кошт амаль пакрываюць дабраахвотныя ахвяры.

Сп-ня Марыя Данілюк гаварыла далей аб парахвіяльным сястрыцтве, дзякуючы якому ўтрымоўваецца парадак у царкве ды што-нядзелі й на ўрачыстасьцях пасьля адправаў у залі ёсьць кава, нярaз і зь печывам.

Сп-ня Данілюк заклікала прысутных і няпрысутных на сходзе жанчынаў далучыцца да сястрыцтва ды памагаць у ягонай працы.

Пасьля справаздачаў сход прыйняў прапанову Парахвіяльнае Рады ўзнавіць збор гадавых парахвіяльных складкаў у суме няменш як 50.оо даляраў ад асобы.

Сход закончыўся малітвай і архіпастырскім заклікам Божае ласкі ўдзельнікам сходу.

У Сьвятым Пісьме ёсьць кніга пад назовам "Песьня песьняў", ці "Песьня над песьнямі" якой звычайна прысьвячаецца мала ўвагі, мабыць таму, што ў ёй гаворыцца праз ... каханьне.

Запраўды, у кнізе нідзе ня ўспамінаецца Божае Імя, а ўвесь час ідзе гутарка праз асалоду людзкога каханьня й горкасьць разстаньня, што робіць зьмест падобным да зборніка любаснае паэзыі ды ставіць пытаньне, чаму яна ўлучаная ў пабожныя кнігі.

Адказ на гэта знаходзіцца ў разуменьні й тлумачэньні напісанага.

Даўнія жыды бачылі ў кнізе ўвабразаваньне Яговавае любасьці да Ізраіля й узаемнае ізраілявавае вернасьці Ягову.

Хрысьціяне, у аснове перайнялі гэтую думку, але перайначылі яе на Хрыстовую любасьць да Ягонае Царквы ды Ейнае імкненьне да Улюбаванага Збаўца.

Апрача гэтага алегарычнага ды традыцыйнага тлумачэньня кнігі ёсьць яшчэ й іншыя пагляды, што бачаць у ёй або культавы сьлед, або драматычны твор, ці ўрэшт складзеную на ягіпцкі ўзор любасную паэзыю.

Для праваслаўных хрысьціянаў мае вагу толькі традыцыйнае алегарычнае разуменьне.

Але й гэтае разуменьне дазваляе на варыянты й у перакaзе Барыса Данілюка, які мы тут часткава прапануем нашым чытачам, Хрыстовая роля хоць застаецца нязьмененай, Царква становіцца паланянкай ліхое царскае сілы.

Дагэтуль, як нам ведама, пераклады "Песьні над песьнямі" на беларускую мову былі зробленыя Францішкам Скарынам, Вацлавам Ластоўскім, Янкам Станкевічам і Васілём Сёмухам.

Усе яны йшлі за друкаваным царкоўна-славянскім тэкстам і былі амаль падрадковымі.

Прапанаваны пераказ Б. Данілюка розьніцца ад іх успомненым ужо частковым пераасэнсаваньнем зьместу ды ягонай вершаванай формай.

Пераказьнік бо ўважаў, што слова "песьня" ў назове твору вымагае, каб ён і гучэў звычнай для беларускіх вушэй песьняй.

Апрача гэтага пераказьнік уважаў, што й сам назоў "Песьня песьняў", ці "Песьня над песьнямі" таксама гучыць непанашаму ды таму назваў твор "Звышпесьняй".

Спадзяемся, што зроблены больш даступным ды ўзбагачаны зьменамі зьместу і формы твор, прыйдзе даспадобы нашым чытачам.

## ЗВЫШПЕСЬНЯ

### САЛЯМОНУ НАД УСЕ БО ЎПАДАБАЛАЯ

(ПЕРАКАЗ)

### I.

Цалаванкі любых вуснаў
За стаялых вінаў хмель
Сэрца полымям пачуцьцяў
Мне займаюць шмат мацней
Й за духмянаў недакупных
Пах яны мне саладзей.

Дзень адзін цябе ня ўбачу
Й сэрца боль наўскрозь пратне,
Імя-ж тваё адно азваў ты -
Як алеям боль суйме,
Дык ня дзіва, што дзяўчаты
Залюбляюцца ў цябе.

Мне наступнага спатканьня
Прычакаць пары няўцерп -
Вой, пакліч, улюбаваны,
За сабой вядзі усьлед,
Ў чадзе я з тваіх духмянаў
Йсьці гатова абы-дзе.

. . .

Вой, ды ўзяў ў свае харомы
Усхацеўшы цар мяне;
Хто зь дзяўчат яму ўпадобны,
Той ў жыцьці раскош і чэсьць,
Дык і песьцяў ўсіх ягоных
Ці адна мне зайздруе.

Ах, праз царнія абдымкі,
За віно што шмат ўпайней,
Ў сэрцы глыбака ўтаіўшы
Крозы шмат дзяўчат снуе,
А ўва мне кваліць бяз спынку,
Мілы, любасьць да цябе.

. . .

Што асмалкая я зь віду
Не загана ў хараству:
Падзівіся, як я выйду,
Ці ў дзявочай грамадзе
Між дачок Ярузаліму
Хоць адна мяне гажэй?!

Буданы зь цьмяных раднішчаў
Ставяць ў Кедры найбалей
Ў Салямонавых лажніцах
Засьці чорныя усе,
Дык й асмалкае аблічча
Ня прычынаю гудзьбе.

Санцавога сьлед асмалу
З той пары відзён на мне,
Як вінічнік пілнавала
Я адна цалюткі дзень,
Ды ў тым полі не знайшла я
Дзе схавацца каб у цень.

Ах, чаму-ж тады ўзлавала
Я здарма маіх братоў,
Што каб кары я дазнала
Не схацелі ўзяць дамоў;
Сад я той дык вартавала,
Не дагледзела-ж свайго...

. . .

Мой ты любы, накажы мне
Сёньня стада дзе пасеш,
Дзе ў паўдзённай гарачыні
На спачын цяпер стаеш -
Не хадзіць каб між чужымі
Мне шукаючы цябе.

Ня блукай мая красуня
Па пустэчах цэлы дзень,
На той выган дзе, пасу я,
Козы ты зьвярні свае -
Глянь, травіца зелянуе
Бы пухмяная пасьцель...

. . .

Фаравонавых вязьліцаў
За цябе я не вазьму,
Больш за коньнікаў бязь ліку
Я цябе адно хачу,
Бо з табою шчасьцям сыты
За часіну ўжо адну.

Бы галубчын пух аблічча
Цалаванкам як крану,
Як з каралю вылiў, быццам,
Шый ейнай хто красу -
Залатым яе маністам
Зь любаты я убяру.

. . .

Пры віна пакуль быў коўні
У бяседзе цар засеў,
Бы цьвет пахны усёроўна
Думкі ўчадзілі мяне -
За міровы пук на ўлоньні
Сэрцу любы бо бліжэй.

Як да ўлоньня пук міровы
Прылягае уначы,
Ці ў Энгэдзе між павояў
Урос у скалы кіпарыс,
Гэтак мілы мой із мною,
Хоць і кон нас разлучыў.

. . .

Вочак позірк галубчыны,
Глянь на мілую маю,
Ці пабачыш дзе дзяўчыну
Зь ёю роўнай на красу?
Ды й каго ўдатней знайсьці мне
За хлапца, што я люблю?

. . .

Патайны мы маем сховак,
Дзе сустрэнемся ўдвайгу -
Панад ім пацёс кядровы
Вецьце шчыльна разгарнуў
Й зь кіпарысу там густога
Увокал маем мы сьцяну.

### II.

Вой, ня роўна я шыпшыне,
Што ўвабраная у цьвет,
Харашуе у лагчыне,
Як вясна да нас прыйдзе
Ды на ўзгоркавым адхіне
За мяне й лантуш красьней.

Як зь лялеяй у цярніны
У хараству раўні няма,
Гэтак, любая дзяўчына,
За цябе гажэй няма,
Сьвет увесь хоць я схадзіў-бы
Й цэлы век каб выбіраў.

Быццам яблыня каханы,
Ў чыстым полі што адна:
Ў сьпёку дасьць студны схаванак
Й плод салодкі скаштаваць,
Дык раўні між дзяцюкамі
Зь любым мне нідзе няма.

. . .

У сьвятліцу на застольле
Цар мяне з сабою ўзяў,
Папрыбоч даць мейсца ўволіў
Ля бяседнага стала;
Што ўпадобная найболей
Усім ён чыста паказаў.

Я на кветцы спачываю
Перад стравай дарагой,
Цар мяне ўсьцяж абдымае
Пестна моцнаю рукой,
Я-ж употайкі гадаю
Дзе цяперка любы мой.

. . .

Вой, прашу я вас красуні,
Ярузальмнія дачкі,
Ды на ланяў і казуляў
Вам зарок даю такі:
Ня трывожце маёй любай,
Як праз шчасьце лятуціць!...

. . .

Голас любага ўжо чую
І здалёк мне ён відзён,
Па прыгорках як бараздуе
Сэрцу што майму любён -
Ні алень, ані казуля
Не пасьпеюць уздагон.

Ўжо прыйшоў ён і чакае
Блізка, блізка за сьцяной,
Нецярпліва заглядае
Вокал ў кожнае вакно,
Шчылак нат ў муры шукае,
Каб барджджэй від згледзець мой.

Чую мілы мой як кліча,
Як гукае здалі йшчэ:
О, найлюбая, схапіся,
Выйдзі ўсустрач найхутчэй.
Кінь усё і не пазьніся,
Згэтуль разам мы пайдзем.

Сьцюжы зімніх дзён мінулі,
Веюць поўднія вятры,
Краскі ўвокал разгарнулі
Дзіў пялёсткавай красы,
Дрэвы ліст зноў апранулі,
Упалі цёплыя дажджы.

Чуй, галубка ўжо варкуе
Ў нашай роднай старане,
Дзе ні глянь сад зелянуе,
Зь цьвету пах ускрозь ідзе
І вінічнік наш красуе -
Убраньне весьняе ён ўзьдзеў.

Выйдзі ўперайм, дарагая,
Ў сьвеце мне за ўсіх мілей,
Не таіся трапяткая
Гэтак ты мне ад вачэй,
Чыста ластаўка шукае
Схову ў беражнім гнязьдзе.

Мне яві узноў аблічча,
Што красьней яго няма,
Да мя не ты абзавіся,
Любы голас мне падай
На разлуку каб забыцца,
Шчасьце ўведаць узнава.

Вунь і песьня нат чутная,
Што пяялі ў нас здаўна:
"Ах, лісіцу хто спаймае,
Што на шкоду ходзе ў сад,
Ў той садок, дзе зацьвітае
Увесьнем віньняя лаза".

. . .

Мой адно ты, ўлюбаваны,
І я ўся твая навек,
Доўжыць дзень мне у чаканьні
Покуль сонейка зайдзе,
На лугі, што цьветам ўсланы,
Стада пасьвіць як жанеш.

Вой, вярніся, мілы, рана,
Сэрца відам тваім ўцеш,
Завяртай авец з палянаў -
Пасьпяшай ты да мяне,
Як гарой алень, ці ланя
У Бэтэры лётка ймкне.

III.

Пеўні ўжо амаль запелі,
А заснуць я не магла:
Сэрцу любага ў пасьцелі
Спадзявала надарма,
Аж, як зоры йшчэ ня сьцьмелі
Выйшла ўвонк яго шукаць.

Абыйшла ўсё чыста места
Я з канца ў канец другі
Па ўсіх вулачках і сьцежках,
Дзе ён мо чаго зблудзіў,
Ды нідзе, ні ў водным месцы
Не змагла яго знайсьці.

Вартавых я напаткала,
Што старожаць уначы,
Ці дзе мілы, апытала,
Ім на вочы ня лучыў,
Аж ад іх як адыйшла я
Ўраз ён шлях мне заступіў.

І цяпер як ён зы мною
Ад яго не адыйду,
Не разстануся ўжо болей
На часіну нат адну,
Ажно ў родны кут яго я
Назаўсёды прывяду.

. . .

Вой, прашу я вас красуні,
Ярузальмнія дачкі
Ды на ланяў і казуляў
Вам зарок даю такі:
Ня трывожце маёй любай,
Як праз шчасьце лятуціць.

. . .

Хто-ж красуня, што вунь тамак
Праз пустынь ісьцежкай йдзе,
Гэтак стоцьмая ўся станам,
Як слупом што дым ўстае
Ад тых курываў й духмянаў,
Пахнаў парыць што варэц?

Канец 3-е часткі з 8-мі.

## ПСАЛЬМ 3

(ПЕРАКАЗ)

Гаспадару,
Як тых, што мне дакучаць
зболышаў рой
І ўпроць, што йдуць лік прыбывае,
Яны ўсе чыста кажуць у вадно:
"У Бога ласкі ён ня мае".

Ды Ты, Гаспадару, Аховец мой,
Чало з Твае ўздымаю славы,
Як да Цябе зьвяртаюся з прасьбой
Пачуць з найвышша Ты ласкавы.

Кладуся спаць і ўпэўна ўночы
сьплю,
Што ўраньні Гаспадар уздыме
Ды не баюся процьмы, што з усюль
Усьцяж на мяне пагрозна хлыне.

Пачуй, Гаспадару і Божа мой
Ды збаў мяне Ты ад загубы,
Як біў у скіўе ўдаўнь варожы рой,
Скрышы й цяпер Ты злыдням
зубы.

О, наш Гаспадару, збаўленьне дай
Ды паспрыяй Твайму народу.

## ПСАЛЬМ 84

(ПЕРАКАЗ)

Гаспадару,
Калісь наш край Табе ўспадобу быў,
Ты адвярнуў Якубаву нядолю,
Тваім людзям правіны адпусьціў
Ды ласкаў быў з грахоў ўсіх іхных
зволіць.

Твой гнеў ад іх даўней Ты адвяртаў,
Усьцюджаў напал Твайго на іх разьятра
Й цяпер нас, Божа, Ты ўздымі
ды збаў,
Пакінь на нас нязбачліва злавацца.

Няўжо Твой гнеў трывацьме без канца,
Няўжо пара прабачыць не настане,
Няўжо ня вернеш нам узноў жыцьця,
Ў Тваіх людзей каб быў Ты ўсьцяж ў
ў пашане.

Яві, Гаспадару, нам Твой спагад
І міласьцівы будзь урэшт нас збавіць.

Цікую мовіць Бог што й Гаспадар,
Ягоны голас мір як абвяшчае,
Яму ўпадобным людзям шчодры дар,
Усім, што сэрцы да Яго ўздымаюць.

Ягона выбаўленьне блізка тым,
Як хто Ягона Імя ў пашане мае,
Праз пашанотнасьць штодня перад Ім
Ягона слава ў Край наш завітае.

Спагад і любасьць стрэнуцца тады
І шчыра мір абнясца з праўдай прыйдзе,
Зямля ўгару пашле паверу ўздым
І справядлівасьць зь неба ўрэшце
зыйдзе.

Тады нам Гаспадар пашле шчадро,
Зямля дасьта нас накорміць хлебам,
Ступацьме праўда ўперш з Гаспадаром
І мір Ягоным скрозь ісьціме сьледам.

# РАСЕЙСКАЕ ПРАВАСЛАЎЕ Й БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СЬВЕДАМАСЬЦЬ НА ПАЧАТКУ 20-га СТАГОДЗЬДЗЯ

Праваслаўе, бязумоўна, ёсьць адным з найважнейшых фактараў, што паўплывалі на фармаваньне нацыянальнае сьведамасьці беларусаў.

Праваслаўе часта было кампанэнтам саматоеснасьці, але гэта не заўсёды прыводзіла да сфармаваньня беларускае нацыянальнае самаідэнтыфікацыі.

У перад-сучасных грамадзтвах, да таго як на першы плян выходзіць нацыянальны кампанэнт сьведамасьці, галоўным элемэнтам групавога самаазначэньня ёсьць тэрыторыя, мова й ... рэлігійная прыналежнасьць.

У выпадку Беларусі апошні кампанэнт нават рабіўся найважнейшым у вызначэньні этнічнае прыналежнасьці - успомнім атасамленьне каталіцтва з польскасьцяй, і праваслаўя з расейскасьцяй.

З надыходам эпохі сучаснага нацыяналізму рэлігійная прыналежнасьць як элемэнт самаідэнтыфікацыі праходзіць трансфармацыю й саступае ў прыярытэтнасьці іншым фактарам, перш за ўсё лінгвістычным і гістарычным.

У Беларусі ўзьнікненьне сучаснага нацыяналізму можна датаваць пачаткам 1860-х гадоў, калі працы польскіх і (у меншай ступені) расейскіх этнографаў ды гісторыкаў, нацыянальныя рухі суседніх народаў, Студзеньскае паўстаньне 1863 г. і рэакцыя на яго расейскіх уладаў актывізавалі працэсы нацыянальнага самавызначэньня.

Абедзьве асноўныя нацыянальныя сілы, расейская й польская, што дзейнічалі на Беларусі й уплывалі на нараджэньне сьведамага беларускага элементу, актыўна выкарыстоўвалі рэлігійны фактар.

Для большае часткі беларусаў гэтым фактарам было праваслаўе расейскае формы.

Няймо выразна акрэсьляных тэрытарыяльных і моўных прыкметаў, адсутнасьць адзінага саманазову/этноніму дазвалялі расейскай каланіяльнай адміністрацыі выкарыстоўваць рэлігійны фактар найбольш інтэнсыўна.

Пад наглядам расейскіх царкоўных лідараў праводзілася праца на пераўтварэньне праваслаўнае рэлігійнае прыналежнасьці беларускага насельніцтва ў расейскую нацыянальную прыналежнасьць.

Супольнасьць веры мусела пераканаць, што беларусы ёсьць часткай (племям) трох-адзінага расейскага народу, у якім павадырства й "правы першародзтва" спракон веку належаць "вялікаросам".

Ніякае гаворкі не магло быць праз аб'ектыўную царкоўную гісторыю.

Стаўленьне афіцыйных царкоўных і дзяржаўных колаў Расеі да праваслаўнага насельніцтва Беларусі мала чым розьнілася ад такога з часоў Івана Жахнога, калі жыхароў захопленых абшараў Беларусі нанава хрысьцілі, ня вызнаючы іхнае веры за запраўды праваслаўную.

Так, напрыклад у данясеньні япіскапа Менскага й Тураўскага да менскага губэрнатара ў справах япархіі гаварылася: "мяйсцовае праваслаўнае насельніцтва, за вылучэньнем навучэнцаў школаў, выяўляе сабою у вялізарнай большасьці няпісьменны народ, што наагул мае самае імглістае, туманнае й нявызначанае пайняцьце аб догматах сьв. правалаўнае веры".

Зусім слабой была падрыхтоўка ў царкоўна-парахвіяльных школах, а іхнае фінансаваньне - недастатковым.

Яшчэ адным фактарам, які скарысталі расейскія царкоўныя й цывільныя ўлады была непрыязьнь да польскіх абшарнікаў, да якіх належала большасьць земляў у Беларусі.

Палякі выстаўляліся за майстроў інтрыгаў супраць Расеі, у гіпэртрафаваным выглядзе падаваўся перасьлед палякамі праваслаўя.

Гэта прыўяло да палёнафобіі й шырэй - ксэнафобіі часткі беларускага насельніцтва, ізаляцыі ад культураў навакольных народаў-суседзяў, якія праходзілі пад катэгорыяй "інародцаў".

Разам з тым, нявысокі ўзровень падрыхтоўкі сьвятароў значна зьменшыў эфэктыўнасьць гэтай прапаганды.

Расейскае праваслаўе было ня надта здольным да насаджэньня расейскае нацыянальнае сьведамасьці сярод беларускага насельніцтва - пераважна дзеля таго, што ў выніку камбінацыі сацыяльна-эканамічных умоваў 19-га пачатку 20-га стагодзьдзяў большасьць насельніцтва заставалася ў фазе перад-сучаснага (традыцыйнага) грамадзтва, і пытаньні сучаснае нацыянальнае сьведамасьці былі па-за сфэрай ягонага ўспрыйняцьця.

Разгляданы тут пэрыяд супаў з разбурэньнем традыцыйнага грамадзтва, што выклікала трансфармацыю рэлігійных паглядаў беларускага насельніцтва ў бок меншае пабожнасьці.

Таму захады расейскае царквы зрабіліся яшчэ менш эфэктыўныя, і да гэтага дадалася некампэтэнтнасьць уладаў у "беларускім пытаньні".

Уздым прапаганды за расейскасьць адбыўся ў пору прэм'ерства П. Сталыпіна, што пэўны час быў губэрнатарам у "Заходнім краі" й добра ведаў мяйсцовую спэцыфіку.

Расейскае праваслаўнае духавенства актыўна далучылася да выбараў у Думу, прабавала ўвайсьці ў новастворанuя структуры мяйсцовага самакіраваньня - земствы.

Сацыяльна-палітычная плынь часткі інтэлігенцыі беларускіх земляў - "западнарусізм" - аб'ядноўвалася з расейскім духавенствам супраць рэвалюцыйнага ўздыму й нараджэньня беларускага нацыянальнага руху.

Між тым аўтарытарная атмасфэра ў сэмінарыях спрычынялася да таго, што большасьць прагрэсыўнае й разумова адвансаванае моладзі не працягвала адукацыі на ўсьвячэньне ў сьвятары, а вучылася далей у іншых установах.

На беларускіх землях, паводле словаў расейскага нацыяналіста І. Саланевіча, "акрамя мужыка, рускага не было нічога". Гэта значыла, што толькі з русыфікацыяй беларускага сяляніна царызм мог разьлічваць на запраўды трывалы грунт ягонага панаваньня ў краі.

Галоўны націск русыфікацыі быў зроблены на ролю расейскае праваслаўнае царквы, што, пад прыкрыцьцём тэзісу аб трохадзінстве расейскага народу й беларускім "племяні", праводзіла прапаганду ў кірунку атаесамленьня праваслаўнага веравызнаньня з расейскай нацыянальнасьцяй.

Тым самым беларускаму народу з аднаго боку адмаўлялася самастойнае нацыянальна-культурнае разьвіцьцё, а з другога, парадаксальна закладалася перадумова да самастойнасьці й незалежнасьці, бо вялікае мноства незалежных нацыяў фактычна выйшла ў 19-20 стагодзьдзях з плямёнаў і этнічных групаў, што ня мелі дзяржаўнага дазнаньня.

Нараджэньне беларускага нацыянальнага руху, стварэньне беларускіх партыяў, тэатральных суполак і г.д. рабіла працу, адваротную ад палітыкі расейскіх цывільных і царкоўных уладаў ў дачыненьні да русыфікацыі беларусаў.

Тым ня менш, падтрыманыя савецкім рэжымам вынікі тае асыміляцыйнае палітыкі адчуваюцца й у наш час, калі "эстафэту" непрызнаньня беларускасьці падхапіла пост-савецкая праваслаўная царква й ейны "Беларускі экзархат".

Віталь Зайка

# З КНІЖНАЕ ПАЛІЦЫ

*1999 БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ КАЛЯНДАР. Выданьне Беларускага Праваслаўнага Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў. Менск 1998. Бач. 122. Тыраж 250 асобнікаў.*

Першае, што сёньня прыцягае ўвагу чытача ў беларускім выданьні, калі сёньня такое дзівам зьяўляецца ў Беларусі - гэта не ягоны выгляд і зьмест, а тыраж.

Зазірнуўшы, гэткім чынам, на апошнюю бачыну новага каляндара, што ім, "дзякуючы фінансавай дапамозе Дзяржаўнага Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасьцей Рэспублікі Беларусь", абдарыў ягоных вернікаў Экзархат Маскоўскага Патрыярхату, толькі працёршы колькі разоў вочы даходзіць да розуму, што надрукавана гэтага выданьня адно 250 (!) асобнікаў.

Успомніўшы, што ў 1994-м годзе, калі каляндар пачаў выходзіць, ягоны тыраж быў 10000 асобнікаў, становіцца ясна ў які бок у Экзархаце ды й дзяржаве йдзе справа беларусізацыі.

Да гэтага й на тэхнічна добра выкананых ягоных бачынах цяжка знайсьці што-колечы запраўды ўсьцешнае беларускаму сэрцу.

Пачынаюцца бо гэтыя бачыны партрэтамі, перш галоўнага прапаведніка за "возсоединение" нашага Краю з Расеяй - патрыярха Аляксея, а за ім і дзясятка меншых "інтэгрархаў", зь мітрапалітам Філарэтам на чале.

Далей ідзе каляндарная частка, у якой сьпісана больш маскоўскіх сьвятых, як іх у самой Расеі ўспамінаюць.

Разам з гэтым у перапісаных паводле наркомаўскага правапісу царкоўна-славянскіх назовах сьвятаў, імёнах сьвятых, "перакладах" сьпеваў і паясьненьнях да адправаў працягваецца спроба выдаць гэтую "царквомаўку" за беларускую мову.

Тое самае можна сказаць і праз "звод" імёнаў сьвятых, што густа ўсеяны гэткімі кветачкамі, як "Афанасій, Васілій, Георгій, Данііл, Іаан" і г.д., якім роднага паху не даюць зрэдка побач у дужках зьмешчаныя народныя варыянты гэтых імёнаў.

Дарэчы, няўжо экзархацкія "беларусісты" ня ведаюць, што слова "звод", ад "зводзіцца", у нашай мове значыць "канец", ці "загубу"?

Калі-ж ужо пайшла гутарка праз канец, дык гэтае мейсца ў каляндары на 23-х бачынах займае пераклад Сьв. Літургіі, што й накіраваны на звод нашае мовы.

Бо, не зважаючы на ўсьцешныя прадмовы да каляндара й перакладу, мова, якою яны карыстаюцца, нішто іншае як карыкатура нашае мовы й зьдзек над ёю, а "беларушчына", што ёю хваляцца, аплявухі пачуцьцям пабожных беларускіх патрыётаў.

Пераклад зрабіў, быццам-бы, адзін зь "беларусістаў", якіх для віду й на ўсялякі выпадак яшчэ трымае пры сабе экзархат - пратаярэй Сяргей (Сергій) Гардун, але азнаямленьне з творам наводзіць на думку, ці ня кіраваў ягонай рукою сам экзарх.

Ужо загаловак перакладу "Бажэственная Літургія Святіцеля Іаана Златавустага" разіць усяго толькі перапісаньнем на беларускі лад царкоўна-славянскага, а для нашага вуха расейскага назову.

А, ці цяжка, каб не асымілятарскія загарадкі, дадумацца, што на ц.-славянізм "бажэственная" ёсьць свой адпаведнік "багаўная", таксама, што можна было-б абыйсьціся й бяз слова "сьвяціцель", або "сьвяты ў япіскапскай годнасьці", ды напісаць падобна, як гэта робяць ў перакладах на іншыя мовы "Багаўная Літургія Сьвятога Яна Залатавуснага"?

Усьлед за гэтым ідзе яшчэ загаловак "літургія аглашэнных", дзе "аглашэнных" зусім незразумелае слова, якое, як было ўжо напісана ў "Царкоўным Пасланцы", добра выясьняецца нашым словам "настаўляных".

Далей пачынаецца нясур'ёзная крутня з выводнымі ад ц.-сл. "благо" словамі, як "благаславі" й "благаслявёна", хоць кожнаму цьвярозаму ясна, што роўназначнае расейскаму "плохо" беларускае "блага" ніякімі словаскладаньнямі ў "дабро" не абярнуць.

Ды й ніякіх дзівосаў, на падабенства "дабраславі", "дабраславёны", як дзе-хто робіць, выдумляць ня сьлед, бо на гэтую патрэбу ў нас ёсьць адпаведныя й дастатковыя словы "хвалаваць", "хвалаваны" й г.д.

Да гэтага-ж, замест "царства", што нагадвае маскоўскую імпэрыю, трэба казаць "гаспадарства" ды "госпада" называць нашым словам "гаспадар".

Спадзявацца на гэта ад перакладніка, праз якога тут гутарка, пэўна-ж, дарма, бо ён нягодзен уволіцца ад царкоўна-славянскага, а ў запраўднасьці грэцкага павадка й у будове сказаў далейшых тэкстаў, дзе ўвесь час непанашаму ставіць прыметнікі й займеньнікі ў іхнай "наркомаўскай" форме, як напр. "наша, нашы", замест "нашая, нашае, нашыя", пасьля назоўнікаў.

Не даходзіць да яго й сэнс заклікаў, што выгалошваюцца ў вялікім, або зазладным упрашаньні (якценіі), бо замест клічнага "памалемся", ці яшчэ лепш "упрашайма", ускрозь ставіць неакрэсьленае ў часе "памолімся".

Таксама й у адказнай прасьбе маленьнікаў, замест натуральнага ў нашай мове "зьмілуй", ён ужывае "памілуй", што, як "пабудзь", "пастой", "патрымай" і пад. мае кароткачасовае значаньне.

Далей перакладнік пайшоў насустрач тым, што, як ён кажа, "маюць цяжкасьці з царкоўнаславянскай мовай" ды ўзрадаваў іх словам "благагавеньне", значаньне якога "(глыбокая) павага" можна знайсьці адно ў слоўніку царкоўна-славянскае мовы.

Ёсьць у перакладзе й сьмешны мамэнт, а гэта, калі выгалас "о Великом Господине и Отце нашем Святейшем Патриархе Алексии, и о ... Господине нашем ...Митрополите Филарете" абяртаецца ў быццам-беларускае "за вялікага Спадара і айца нашага Сьвяцейшага патрыярха Аляксія і за ... Спадара Мітрапаліта Філарэта", што ўсёроўна як-бы паангельску замест "lord" казаць "mister".

Ды й навошта царскія тытулы "Божым слугам" - ці не даволі было-б званьняў "сьвяцейшы", або "высакапрэасьвяшчэньнейшы"?

Урэшце ў канцавым заклiку зазладнага ўпрашаньня ў перакладзе без патрэбы зьмешаныя прыметнікі з чужым прэфіксам "Прасьвятую, Прачыстую" зь беларускім "Найблагаславеньнейшую", замест "Уладарка" стаіць "Уладычыца", якая яшчэ й абзываецца словам зь перастаркаватым значаньнем "Дзева", хоць ёсьць на гэтае мейсца больш адпаведнае "Дзеўна".

Перакладнік таксама ня ведае якога роду слова "Госпад", бо на ц.-славянскі лад у клічным склоне, замест "Госпаду", ставіць "Госпадзі", вяртаючыся зь якога ў назоўны выйшла-б жаночая "Госпадзь".

Першы антыфон (перасьпеў), або 102-гі псальм, што йдзе пасьля зазладнага ўпрашаньня яшчэ адзін довад нятолькі перакладнікавае няведы нашае мовы, але й ягонае глухаты да якога-колечы стылю ды музыкальнае здатнасьці твору.

Таму ня будзем тут ім займацца, але тым, хто мае каляндар, раім прачытаць пераказ 102-га псальму, што быў надрукаваны ў папярэднім нумары "Царкоўнага Пасланца", каб пабачыць розьніцу паміж прыгожым словам і "царквомаўскім" выразкам.

Тое самае датычыць і 145-га псальму, што ім пачынаецца 2-гі антыфон, ды пераказ якога надрукаваны ў гэтым нумары "Царкоўнага Пасланца".

У песьні, што йдзе за псальмам слова "адзінародны" мае цьмянае значаньне й патрабуе замены на "адзіны

народжаны", і "Божы Сыну", а ня "Сыне Божы", ды, не кранаючы іншых перакладніцкіх безглуздзяў, усё-ж, ня "сьмерць папаптаў", бо няёмка ўявіць Хрыста, што топчацца па сьмерці, а "сьмерць зьвярнуў", за што Ён і "ўслаўляны", а не "праслаўляемы".

Над трэйцім антыфонам перакладнік, не задумоўваючыся, надпісвае слова "Блажэнны", што робіць яго ў нашай мове выводным перш ад "блажэць", а далей ад "блага", ці "плохо", якое ўжо раней ўспаміналася.

Царкоўна-славянскае-ж "блажити", зь якога пайшло "блаженни" значыць, між іншым", "рабіць (некага) шчасьлівым, чыніць (некаму) дабро, багаціць", што панашаму ўдала выказваецца словам "шчадрыць".

Таму й трэйці антыфон пабеларуску павінен называцца "шчадрэньні", а ягоныя наказы пачынацца словамі "шчадроныя".

Гэтыя-ж прыгожыя наказы перакладзеныя ў калялндары, нажаль, гэтак нягодна, што ад іх робіцца нятолькі блага, але й блажэнна, ды не стае сілы корпацца ў няўмецтве.

Усьледны дыяканаў выгалас пры малым уваходзе "Премудрость, прости!" перакладнік з царкоўна-славянскага робіць расейскім "Прамудрасьць! Станьце прама!", хоць пабеларуску павінна было-б быць "Наймудрасьць! Станьце проста!", а можа яшчэ лепш "Станьце годна!".

Далей зьмешчаныя падрадковыя "пераклады" на "царквомаўку" нядзельных трапароў і кандакоў, ад няўклюднасьці й трасянкавасьці якіх ды далей пададзеных нядзельных пракімянаў робіцца моташна на душы.

Хочацца, усё-ж, заўважыць, што на выказванае перад чытаньнем апостала й явангельля "вонмем", замест "будзем уважлівымі", ёсьць добрае беларускае слова "цікуйма".

"Сугубае екцяньні", як перапісвае ейны назоў перакладнік, а якую панашаму трэба было-б назваць "узмоцненым упрашаньнем", датычаць нятолькі заўвагі зробленыя тут раней да зазладнага ўпрашаньня, але трэба было-б зрабіць іх шмат болей, ды на іхную безьліч няма на бачынах часапісу мейсца.

Ейны пачатак "скажам ад усяе душы..." трэба ўспомніць, аднак, гучыць вельмі неўрачыста, а можна-ж было яго заступіць паважным "моўма ад усяе душы...".

У "екцяньні за памерлых", або ў "засупакойным упрашаньні" ёсьць прасьба "подай, Господи", якую перакладнік перааквае ў "падай, Госпадзі", хоць яе, як аб гэтым было ўжо напісана ў "Ц.П." № 1/38/48, бач. 7, панашаму прыгажэй было-б выказаць словамі "зволь даць, Госпаду (Гаспадару)!".

Ня будзем узноў затрымоўвацца над "якценьнямі", ці ўпрашаньнямі, якімі кончыцца Літургія настаўляных ды пачынаецца Літургія верных, бо заўвагі да папярэдніх зь немалымі дадаткамі датычаць і іх, але ня пісаць-жа гэтта кнігу папраўляючы кожнае няўмецтва, і таму пойдзем далей да хэрубімскае песьні.

Перакладнік выкладае яе гэтак: "мы, хэрувімаў тайна яўляючы і Жыватворчай Троіцы трысьвятую песьню сьпяваючы, усякі цяпер адкладзем жыцьцёвы клопат".

Ня кажучы ўжо, што мова гэтта, як і ўва ўсім перакладзе скалечаная, цікава, як перакладнік засьпяваўбы гэты ягоны звышмайстэрскі твор?

На нашую думку хэрубімская песьня пабеларуску павінна была-б гучэць гэтак: "дзівам хэрубімаў гэтта ўвасабляючы, ды жыцьцё што творыць Тройцы (Тройству) тройч сьвятую песьню пяючы, нашыя ўсе мы пражытныя адкладзем(а) турботы цяпер"

Ейны-ж працяг пасьля вялікага ўваходу, замест "Амінь. Каб Цара ўсіх мы прынялі, Якога нябачна суправаджаюць ангельскія чыны. Алілуія...", трэба сьпяваць "Амінь. Ды ўсіх Уладара прывітайма, ангялаў гурты што Яго ўзьняўшы нябачна нясуць, Алілуя, алілуя, алілуя".

Да "прасіцельнае ецьцяньні", якую, таму, што ў ёй мовіцца прасьба за прынесяныя дары, на ўзор іншых цэркваў можна было-б назваць "задаровым упрашаньнем", каб не паўтарацца й не расьцягвацца дабясконца, рабіць асобных заўвагаў ня будзем.

Параўнаем затое тэксты Выяву (Сымбалю) Веры разгляданага тут і зробленага намі перакладу, што лепш за доўгія выясьненьні пакажа, як ня трэба, ды як можна пенракладаць на беларускую мову:

Верую у адзінага Бога Айца, Уседзяржыцеля, Тварца неба і зямлі, усяго бачнага і нябачнага. І ў адзінага Господа Ісуса Хрыста, Сына Божага, адзінароднага, ад Айца народжанага перад усімі вякамі; Святло ад Святла, Бога ісцііннага ад Бога ісціннага, народжанага, не створанага, адзінасутнага з Айцом, праз якога ўсё сталася. Які дзеля нас, людзей, і дзеля нашага збаўлення сышоў з нябёс і уцялесніўся ад Духа Святога і Дзевы Марыі, і стаў чалавекам. Быў распяты за нас пры Понціі Пілаце, і пакутаваў і быў пахаваны. І ўваскрэс у трэці дзень згодна з Пісаньнем. І ўзышоў на нябёсы, і сядзіць праваруч Айца. І зноў прыйдзе ў славе судзіць жывых і мертвых, і Яго Царству не будзе канца. І ў Духа Святога, Господа, Жыватворчага, што ад Айца зыходзіць, што з Айцом і Сынам разам пакланяемы і славімы, што гаварыў праз пракракаў. У адзіную Святую Саборную і Апостальскую Царкву. Вызнаю адно хрышчэнне для адпушчэння грахоў. Чакаю уваскрасення мёртвых і жыцця будучага веку. Амінь.

(Я) веру ў аднаго Бога Айца, над усім Уладара, што неба й зямлю стварыў, ды ўсё бачнае й нябачнае. І ў аднаго Госпада (Гаспадара) Ісуса Хрыста, Божага Сына, адзінага, што ад Айца нарадзіўся за ўсе вякі перш; Сьвятло ад Сьвятла, Бога папраўдзе ад Бога папраўдзе, што нарадзіўся, ня створаны быў, адзін і той сам ёсьць з Айцом, ды што зь Яго ўсё пайшло. Што дзеля нас, людзей, і дзеля нашага збаўленьня зь неба зыйшоў, і ўзяў цела ад Сьвятога Духа й Дзеўны Марыі, ды стаў чалавекам. Што за нас на крыж быў прыбіты пры Понцкім Пілаце, і цярпеў мукі, ды быў пахаваны. І ўстаў жывы на трэйці дзень паводле Пісьма. І на неба ўзыйшоў і сядзіць праваруч ля Айца. Ды ўзноў прыйдзе йз славай судзіць жывых і памерлых, Ягонаму-ж Гаспадарству ня будзе канца. І ў Сьвятога Духа, Госпада (Гаспадара). што стварае жыцьцё, а йдзе ад Айца, ды Яму з Айцом і Сынам пакланеньне і слаўленьне ўраўні, Ён-жа маўляў праз пракракаў. У адну Сьвятую, Саборную й Апостальскую Царкву. Вызнаю адно хрышчэньне дзеля адпушчэньня грахоў. Чакаю ўстаньня памерлых і жыцьця ў веку, што прыйдзе. Амінь.

Усьлед ідзе эўхарыстычны канон, які мы ўзноў падамо ў двох перакладах:

Станем добра, станем са страхам, будзем уважлівымі, каб святое прынашэнне ў міры прынасіць.

Міласьць міру, ахвяру хваленьня.

Благадаць Госпада нашага Ісуса Хрыста і любоў Бога Айца, і супольнасьць Святога Духа няхай будуць з усімі вамі.

І з духам тваім.

Станьма годна, станьма з пашанай, сьвятое ўзношаньне ўважна ў зладзе (каб) прыносіць.

Дар ад міру, даньне хваленнае.

Ласка нашага Госпада (Гаспадара) Ісуса Хрыста і любасьць Бога Айца, ды прысутнасьць Сьвятога Духа няхай будуць із усімі вамі.

Ды й з тваім духам.

(Працяг на 14-й бач).

## ІМГЛА ЗАМЕСТ СЬВЯТЛА

Сорак пяць год назад, калі тварылася радыястанцыя “Вызваленьне”, голас на ейных хвалях атрымоўвалі прадстаўніцтвы падсавецкіх народаў, што хоць і няшчыра, але згаджаліся на г.зв. “непредрешенство”.

“Непредрешенство”, або неакрэсьленае стаўленьне да права на дзяржаўны сувэрэнітэт гэтых народаў ды нехаць вызнаць абвешчаньні іхнае незалежнасьці пасьля лютаўскае й кастрычніцкае рэвалюцыяў ў Расеі за факты міжнароднага права, было вынікам асьцярогі амэрыканскае палітыкі ад зьвінавачаньня з боку Крамлю й канфлікту зь ім за намер падзелу савецкае імпэрыі.

Як вялікая была гэтая асьцярога сьветчыць ужо хоцьбы тое, што назовам “Вызваленьне” радыястанцыя карысталася ня дужа доўга й зьмяніла яго на “Свабоду”.

У нас няма дадзеных, каб судзіць як дакладна трымацца гэтага “непредрешенства” даводзілася беларускай рэдакцыі радыя “Свабода”, але ведаючы ейных працаўнікоў нельга сумлявацца, што навіны й камэнтары ў іхным апрацаваньні былі крыніцай запраўднае інфармацыі й у немалой меры пабудніцай нацыянальнае сьведамасьці, а нат і супрацьву.

У гэтую здавольную ацэну, нажаль, не ўкладаюцца праваслаўныя рэлігійныя гутаркі пасьля таго, як іх перастаў апрацоўваць сьв. пам. Архіяпіскап Васіль.

Усьлед бо за ім гэтыя гутаркі доўгі час пісаў, хоць і добра навучоны ў багаведзе, але расейскі сьвятар, дык і ніякага нацыянальнага адценю ў іх ня было.

З распадам Савецкага Саюзу ды абвешчаньнем незалежнасьці Рэспублікі Беларусь амэрыканскае “непредрешенство” апынулася (спадзяемся назаўсёды) ў архіве й беларускія перадачы, наколькі нам ведама, сталі адкрыта адлюстроўваць незалежніцкія імкненьні.

Выйняткам, аднак, засталіся тыя-ж праваслаўныя рэлігійныя гутаркі, не зважаючы бо на нядаўнім дазнаньнем выверанаю праўду, што ня можа быць беларускае дзяржаўнасьці бяз роднае аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, гэтая ўмова нацыянальнага выжыцьця ў гутарках не закранаецца, або ставіцца пад дыскусыю.

Справа ў тым, што хоць і складае іх цяпер багаведна адукаваны й таленавіты прапаведнік, ды пісьменьнік а. Канстанцін Бандарук, робіць ён гэта ня з пункту гледжаньня на царкоўных канонах абгрунтаванае нашае нацыянальнае патрэбы, а з імкненьня, або да крыва зразуметае аб'ектыўнасьці, або з прывітае яму ў ягонай матчынай юрысдыкцыі цягі да царкоўнага адзінства коштам жыцьцёвых інтарэсаў няімпэрыяльных народаў.

Прыкладам гэткага ягонага настаўленьня была перадача “сымбаль веры” з цыклю “сёньня”, якую слухачы пачулі сёлета 28-га лютага.

А. Бандарук пачаў яе заявай “сёньня мы закранаем даволі спрэчнае пытаньне беларускай аўтакефаліі”.

Чаму яно, на ягоную думку, спрэчнае адно для беларусаў, а не для грэкаў, румынаў, баўгараў, сэрбаў ды яшчэ дзясятка іншых праваслаўных народаў, што маюць свае аўтакефальныя цэрквы, сам аўтар не растлумачыў.

Гэткае-ж сумленнае тлумачэньне паказала-б ня супярэчнасьць пытаньня для беларусаў, а варожасьць да яго з боку прасяклае рэлігійна-вялікадзяржаўным імпэрыялізмам Расейскае Праваслаўнае Царквы, што сілаю ўзяла й трымае афіцыйную ўладу над духовым жыцьцём нашага народу.

Аўтар, праўда, усьлед падаў даволі абшырную гістарычную даведку праз спробы ўстанаўленьня аўтакефаліі ў нашым Краі, пачынаючы з часоў Вялікага Княства Літоўскага й канчаючы цяперашняй парою, але склаў яе так “аб'ектыўна” на нашую некарысьць, што ў канцы, як-бы натуральна паставіў пытаньне: “Улічваючы гэтыя гістарычныя факты, ці легітымная беларуская аўтакефалія, ці мае яна кананічнае права на існаваньне?”

Шукаць адказу на гэтае пытаньне а. Бандарук паклікаў ажно трох “знаўцоў”: быццам “мітрапаліта БАПЦ Мікалая “ (М. Мацукевіча) з Таронта, клірыка Беларускага Экзархату Расейскае Праваслаўнае Царквы пратаярэя Сяргея Гардуна зь Менску ды “ царкоўнага й грамадзкага дзеяча з ЗША Васіля Русака”.

Перш, аднак, як слухаць і прыймаць на веру словы выбраных а. Бандаруком сьветкаў у справе легітымнасьці беларускае аўтакефаліі, ці ня варта было-б пазнаёміцца з легітымнсьцяй самых гэтых “знаўцоў?

Нікому не сакрэт, што сёньня БАПЦ мае, як быццам, ажно двох мітрапалітаў і першагерархаў.

Пэўна-ж, у Царкве такога ня можа быць і адзін зь іх, называючы сябе вялікім дастойнікам, ня кажа праўды.

Знайсьці гэтую лёгка відную праўду, а не падпарадкоўвацца загадам эміграцыйных палітыкаў ды ўводзіць слухачоў у грэх, на добры лад і было-б абавязкам а. Бандарука як пастыра.

Нажаль, пакора перад эміграцыйнай “уладай” перамагла й, замест выкрыцьця здрадніцкае ролі М. Мацукевіча ў разьбіцьці й заняпадзе нашае Царквы ды пазбаўленьня яго Саборам Япіскапаў за спрычыненую шкоду духоўніцкае годнасьці, на радыяхвалі пайшла ягоная лухта праз “Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, якую я ачольваю”.

Разам з гэтай лухтою на радыяхвалі пайшла й ягоная хвальба, што “Менскі Мітрапаліт Філарэт, дазволіў мне служыць Сьвятую Літургію ў ягоным *(дамавым -Рэд.)* храме, на ягоным антымінсе і зь ягоным келіхам, зь ягонымі сьвятарамі. Ад яго я таксама атрымаў міра для хросту дзяцей, якіх я ахрысьціў, будучы ў Менску. Гэта прызнаньне мяне кананічным, маючым апостальскае пераемства япіскапам”.

А, ці ня было гэтае сумлеўнае вартасьці “прызнаньне” ўзнагародай за развал, які М. Мацукевіч, спрытней за гурт агентаў КДБ, зрабіў у БАПЦ ды хаборам за незаснаваньне хоць аднае парахвіі БАПЦ на Беларусі?

На паказ розьніцы паміж запраўдным царкоўным кіраўніцтвам, а лякайскім выслугоўваньнем М. Мацукевіча перад мажнымі гэтага сьвету, прыгадаем, што ў тую пару, калі ён прасіўся ў хэўру зь мітрапалітам Філарэтам, на Украіне 90-ці гадовы архіпастыр-патрыёт Мітрапаліт Мсьціслаў пасьпяхова узнаўляў Украінскую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву ды засноўваў Кіяўскі Патрыярхат.

Асягнуць гэта самае на Беларусі імкнуўся й запраўдны кіраўнік БАПЦ Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, але, нажаль, намоўлены М. Мацукевічам й эміграцыйнымі палітыкамі адраджэнскі актыў на Бацькаўшчыне збайкатаваў ягоныя намаганьні, што ў выніку скіравала грамады нацыянальна сьведамых праваслаўных вернікаў у пасткі прыбудоўных арганізацыяў Беларускага Экзархату РПЦ, або ў вунію, ці сэктанцкія сілкі.

Як бачна із усяго вышэй сказанага, легітымнасьць М. Мацукевіча як сьветкі за беларускую аўтакефалію, ня гледзячы на ягную кароткую экскурсыю ў кананічна-праўныя й гістарычныя ейныя абгрунтаваньні, ня вытрымоўвае крытыкі.

Не заслугоўвае на ўвагу й няпрыязнае да нашае аўтакефаліі “мудрагельства на круцельства” а. Сяргея Гардуна, бо ў ягоных словах вылажанае ведамае рэлігійна-імпэрыялістычнае настаўленьне да гэтае справы Маскоўскага Патрыярхату, якое, дзеля пражытнага хлеба, ён мусіць выдаваць за сваё.

Урэшце сп. Васіль Русак, якога а. Бандарук выбраў на прыклад грамадзкага й царкоўнага дзеяча, нічога вартага ўвагі ў закранутай справе ня выказаў.

Затое М. Мацукевіч, спахапіўшыся, мабыць, што

## ІМГЛА ЗАМЕСТ СЬВЯТЛА

(ПРАЦЯГ З 13-е БАЧ.)

ягонае захапленьне "прызнаньнем" ад мітрапаліта Філарэта можа, як граблі выцяць па лобе, на заканчэньне пусьціўся ў нараканьні на маскалёў.

Каб змагацца супраць іх ён нават заклікаў "у замежжы ... утрымоўваць нашую аўтакефалію", якую сам развaліў, але, нічога не зрабіўшы дзеля ўзнаўленьня БАПЦ ў Краі падчас побыту там, і цяпер змоўчаў праз патрэбу працы на гэтую мэту якраз на Бацькаўшчыне.

Усё гэтае "мудрагельства на круцельства" разьвітальным пасьмехам із здаровага сэнсу й з пачуцьцяў пабожных праваслаўных беларускіх патрыётаў завяршыў, аднак, сам а. Бандарук, перш дадаўшы "мітрапаліту Мікалаю" пару фікцыйных, а грэцкай юрысдыкцыі зусім няіснуюючую парахвію ды, на дадатак, знайшоўшы нейкія нябылыя парахвіі, што "апынуліся на раздарожжы, ня ведаючы да каго пайсьці й такім чынам згубілі свой беларускі характар".

З гэтага ён адразу зрабіў выснаў, што на пытаньне беларускае аўтакефаліі няма згоднага адказу ды разьвіў гэтую думку ў рад дадатковых пытаньняў, як:

"Ці незалежнасьць беларускае Царквы ўпяршыню абвешчаная 600 гадоў таму - легітымная?

Ці кананічныя былі чарговыя аднаўленьні аўтакефаліі?

Ці Царквою-Маці ёсьць для нас Канстантынопальскі, ці Маскоўскі Патрыярхаты?

Ці аўтакефалія можа залежаць ад зьмены межаў і зьменлівых ветраў гісторыі?"

Для а. Бандарука гэтыя пытаньні "застаюцца нявырашанымі", бо, як быццам, "няма на іх простага адказу".

Пэўна-ж, для пераконанага царкоўнага "непредрешенца" гэтага простага, ці гнутага адказу ніколі і ня будзе.

Мы-ж, беларускія праваслаўныя патрыёты, ведаем, што прыхільны адказ на патрэбу нашае аўтакефаліі даюць царкоўныя каноны ды пацьвярджае яго існаваньне 15-ці аўтакефальных праваслаўных цэркваў іншых народаў.

Таму й уважаем, што "непредрешенским" пропаведзям ня месца на хвалях беларускіх рэлігійных перадачаў на Бацькаўшчыну.

Б. Шчарыч

## З КНІЖНАЕ ПАЛІЦЫ

(ПРАЦЯГ З 13-е БАЧ.)

| | |
|---|---|
| Угару ўзнімем сэрцы. | Уздымема сэрцы. |
| Мы ўзнялі да Госпада. | Узьнятыя да Госпада. |
| Падзякуем Госпаду. | Падзякуйма Госпаду. |
| Дастойна і праведна ёсьць пакланяцца Айцу і Сыну, і Святому Духу -Тройцы Адзінасутнай і Непадзельнай. | Годна ды належна (нам) пакланяцца Айцу, і Сыну, ды Сьвятому Духу, Тройцы , што (ёсьць) адноа ды непадзельная. |
| Перавможную песню сьпяваючы, выгукваючы, усклікаючы і прамаўляючы. | Пераможную песьню пяючы, галосячы, гукаючы ды мовячы. |
| Сьвяты, Сьвяты, Сьвяты Госпадзь Саваоф, напоўнена неба і зямля славы Тваёй. Асанна ў вышніх! Благаславёны, Хто прыходзіць у імя Госпадняе, асанна ў вышніх. | Сьвяты, Сьвяты, Сьвяты Гаспадар сілаў узнайвыш, поўныя неба ды зямля Твае славы. Асанна ў найвышшы, хвалаваны Той, што йдзе ў Госпадава йімя, асанна ў найвышшы. |
| Прыміце, ежце, гэта ёсьць Цела Маё, за вас ламімае дзеля адпушчэньня грахоў. | Прыймеце, ежце, гэта Маё Цела, за вас ламанае на адпушчэньне грахоў. |
| Амінь. | Амінь. |
| Піце з яе ўсе, гэта ёсьць Кроў Мая Новага Запавету, за вас і за многіх праліваемая дзеля адпушчэньня грахоў. | Пійце зь яе ўсе, гэта Мая Кроў Новага Наказу, за вас і за многіх літая на адпушчэньне грахоў. |
| Амінь | Амінь. |
| Тваё ад Тваіх Табе прынасім па ўсіх і за ўсё. | Твае ад Тваіх Табе прыносячы за ўсіх і за ўсе. |
| Цябе апяваем, Цябе благаслаўляем, Табе дзякуем, Госпадзі, і молімся Табе, Божа наш. | Табе пяем, Табе хвалу даем, Табе падзяку шлем, Госпаду, і Табе молімся, наш Божа. |

Далей, пасьля сьвятаром ціха моўленых малітваў, ідзе хвальная песьня Божай маці:

| | |
|---|---|
| Асабліва за Прасвятую, Прачыстую, Найблагаславеннейшую, слаўную Уладычыцу нашу Багародзіцу і заўжды Дзеву Марыю. | Асабліва за Найсьвятую, Найчыстую, Звышхвалаваную, слаўную Нашую Уладарку Божую Маці й усьцяж Дзеўну Марыю. |
| Дастойна ёсьць сапраўды ўблажаць Цябе, Багародзіцу, заўжды блажэнную і найчысьцейшую, і Маці Бога нашага. Пачэсьнейшую за Хэрувімаў і непараўнальна слаўнейшую за Серафімаў, што непарушанаю нарадзіла Бога Слова, Існую Багародзіцу, Цябе велічаем. | Папраўдзе нам годна чэсьціць Цябе, усьцяж хвалаваную й найчыстую Дзеўну, што Маці нашага Бога. За хэрубімаў у чэсьці вышэй і без раўні за сэрафімаў слаўней, што нязблажна Бога Слова нарадзіла, Цябе, папраўдзе Божую Маці мы ўзвышаем. |

Упрашаньня, што йдзе сьледам, узноў ня будзем разглядаць, бо на гэтую тэму ўжо была гаворка раней і займацца ўсімі далейшымі перакладнікавымі агрэхамі спатрэбілася-б шмат часу.

Падзівімся яшчэ толькі, як ён справіўся з малітвай "Войча наш":

| | |
|---|---|
| І спадобі нас, Уладару, каб мы з адвагаю, неасуджана смелі заклікаць Цябе, нябеснага Бога Айца, і прамаўляць. | І дай годнасьць нам, Уладару, важыцца бяз зганы клікаць Цябе, Бога Айца, што на небе ды маўляць (-ці): |
| Ойча наш, Які ёсьць у нябёсах, няхай сьвяціцца імя Тваё, няхай прыйдзе Царства Тваё, няхай будзе воля Твая як на небе, так і на зямлі. Хлеб наш надзённы дай нам сёньня; і даруй нам даўгі нашы, як і мы даруем даўжнікам нашым; і не ўвядзі нас у спакусу, але збаў нас ад злога. | Войча наш, Той, што на небе Ты бытны, будзь Тваё ўсьвячанае йімя, Тваё Гаспадарства прыйдзі, бузь Твая воля , як на небе, гэтак і на зямлі. Нашага пражытнага хлеба сёньня нам дай ды нам нашыя віны даруй, гэтак, як і мы дароўваем тым, што вінныя нам, ды ў спакушэньне нас не ўвядзі, але ад ліхога нас збаў. |
| Бо Тваё ёсьць Царства і сіла, і слава - Айца і Сына, і Святога Духа, цяпер і заўсёды, і на векі вякоў. | Бо Тваё Гаспадарства, і сіла, і слава, Айца, і Сына, ды Сьвятога Духа, цяпер і ўсьцяж, ды на вякі вякоў. |

Абімінаючы канцавую частку, што ня лепшая за папярэднія, на гэтым мы пабежны агляд перакладу Сьв. Літургіі, пад якім падпісаўся а. Сяргей Гардун, скончым.

Больш зацікаўленым гэтай справай раім прачытаць заўвагі да выдадзенага ў Таронта "Службоўніка", што былі друкаваныя ў "Ц.П." №№ 2 -1995, 1 2-3, 4 -1996 і 1, 2 - 1997, якія датычаць і гэтага перакладу.

Усіх, аднак, каму любая родная мова, заклікаем ня прыймаць зьдзеку, што над гэтым нам Богам дадзеным багацьцем робяць няўмекія перакладнікі, а дамагацца, каб нашыя пабожныя тэксты, як і ў іншых народаў, былі ўзорам чыстае й прыгожае мовы. Барыс Данілюк

## ІМІГРАЦЫЙНЫЯ СПРАВЫ

Беларусы ў ЗША адна з найменшых этнічных групаў, хоць у канцы XIX пачатку XX ст. сюды прыехала колькі сотняў тысяч людзей з нашага краю.

Каталіцкая частка іх праз польскія касьцёлы, нажаль, спалянізавалася, а праваслаўныя, апынуўшыся ў расейскай Царкве, згубілі пачуцьцё нацыянальнае апрычонасьці ды сталі асабовым і матарыяльным рэсурсам расейскіх белых і чырвоных "неделимских" арганізацыяў.

Займо Беларусі ў 1920-м годзе бальшавікамі ды іхняя забарона выезду за мяжу на 70 год спыніла прыбытак ліку эміграантаў з нашага краю ў ЗША.

Сталася гэта, на бяду, калі на Бацькаўшчыне пачалося адраджэньне нацыянальнае сьведамасьці, носьбіты якое, калі-б быў адчынены шлях у Амэрыку, прыехаўшы туды маглі-б вярнуць частку старое эміграцыі да роднага.

За ўвесь гэты час адно ў канцы 40-х пачатку 50-х гадоў было дазволена перасяліцца ў ЗША невялікай колькасьці нацыянальна актыўных ваенных уцекачоў, але тады на працу сярод старое эміграцыі было ўжо запозна.

Усё-ж, гэтая жменя палка ўзялася знаёміць Амэрыку зь Беларусяй ды бараніць інтарэсы нашага народу.

За больш як сорак год у гэтай справе шмат зроблена, але, нажаль, час працярэбліваe рады працаўнікоў.

Калі ў пачатку 90-х гадоў Беларусь стала незалежнай Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква адразу зацікавілася магчымасьцяй адкрыцьця ўезду ў ЗША для беларускіх грамадзянаў.

Нагода прадставіць гэтую справу амэрыканскім уладам здарылася неўзабаве, калі ў палове 90-х гадоў Кангрэс ЗША пачаў выпрацоўваць новы іміграцыйны закон.

Тады, якраз, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў зьвярнуўся да наглядных за іміграцыяй сэнатараў і кангрэсмэнаў з просьбай дапусьціць у ЗША нейкую колькасьць іміграантаў зь Беларусі.

Нажаль, не падтрыманая грамадзкімі арганізацыямі, гэтая просьба, апрача ветлівых адказаў, не дала выніку.

У выніку лукашэнкавага перавароту здарылася, аднак, нагода памагчы пацярпелым ад рэлігійных і палітычных перасьледаваньняў суродзічам, што наведвалі ЗША, атрымаць дазвол на сталы побыт.

Гэтую нагоду Кансысторыя БАПЦ і Катэдральны Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага, дзякуючы ахвярнай працы сп-ні А. Сёмухі, выкарысталі як было магчыма.

Летась, аднак, увайшоў у сілу новы іміграцыйны закон і на дапамогу ў атрыманьні палітычнага азылю патрэбныя ўжо эміграцыйныя адвакаты ды ўстаноўленыя новыя патрабаваньн...

...юты іміґра-
...ў, каб тыя
...собаў, што

...іныя неда-
...Ц і 15-га
...ўскі выслаў
...рэсмэнам і
...праве.
...А параіла
выясьнень-
перасьле-
новы.
...і сэнатар з
...едаміў, што
...а ўвазе.
...о Джэрсы
прапанаваў
...ц просьбаў
зьвяртацца
...

## УШАНАВАНЬНЕ 81-х УГОДКАЎ 25-га САКАВІКА Ў БРУКЛІНЕ

Ушанаваньне 81-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі было зладжанае Парахвіяльнай Радай Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне ў нядзелю, 14-га сакавіка г.г.

Прычынай выбару так раньняе даты была пастанова грамадзкіх арганізацыяў узнавіць пасьля доўгага перапынку сьвяткаваньне ўгодкаў 25-га Сакавіка ў Нью Ёрку, што мелася адбыцца ў нядзелю, 21-га сакавіка г.г.

У Брукліне, у нядзелю, 14-га сакавіка, Сьв. Літургію й малебен за зьняволеных адправіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў з а. архімандрытам Аляксеям.

А. архімандрыт Аляксей сказаў з гэтае нагоды ўзрушальнае слова на явангяльскую ды патрыятычную тэмы

Пасьля адправаў у парахвіяльнай залі сястрыцтва прыгатавала каву зь печывам, частуючыся якімі прысутныя мелі нагоду пагутарыць між сабою.

Афіцыйная частка ўрачыстасьці пачалася прапяяньнем усімі малітвы "Войча наш" ды заклікам Божага прыяньня сходу, якое змовіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

Слова праз падзеі, што завяршыліся абвешчаньнем незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі 25-га сакавіка 1918 году й праз далейшае змаганьне за свабоду нашае Бацькаўшчыны цікава й даступна сказаў сп. Андрэй Падлескі.

У канцэртнай частцы ўрачыстасьці выступіў новы ў Амэрыцы выканальнік беларускіх песьняў бас сп. Аляксандар Балотнік.

Ён прапяяў некалькі песьняў собскае й іншых аўтараў кампазыцыі, зьбіраючы за гэта заслужаныя воплескі.

Із зусім новага для прысутных рэпэртуару выканальніка найбольш ім даспадобы прыйшла, мабыць, песьня "Еўфрасіньня"

Заклікам Я.М. Мітрапаліта Божага прыяньня ўдзельнікам урачыстасьці ды ўсімі разам прапяным нацыянальным гімнам урачыстасьць скончылася.

Пасьля яе заля спусьцела, аднак, неадразу, бо асабліва ненавыклыя яшчэ да жыцьця у чужым асяродзьдзі нядаўнія эміграанты доўга дзяліліся навінамі з роднага Краю ды парадамі, як уладзіцца ў новым.

## ПАДЗЯКА Й ЗАКЛІК

Шчыра вітаем Вас, нашыя Дарагія Дабрадзеі й Чытачы, зь вялікім і радасным сьвятам Хрыстовага Ўстаньня з Умерлых ды ўсім Вам чыста жадаем Божага прыяньня ды сьвятняе ўсьцехі.

Разам з гэтым шкадуем ды моцна перапрашаем, што гэты нумар "Царкоўнага Пасланца" дайдзе да Вас пасьля сьвята.

Прычынай на гэта сталася зайнятасьць рэдактара й сяброў Рэдакцыйнае Калегіі іншымі неадкладнымі царкоўнымі справамі, з чаго выніклі замаруджаньні й зьмены ў падрыхтоўцы матэрыялаў ды затрымкі ў складаньні тэкстаў на кампутары.

Спадзяемся, што Вы зразумееце гэтыя нярэдкія ў дабраахвотнай працы цяжкасьці й выбачыце паўсталае зь іх спазьненьне.

Мы-ж, з нашага боку будзем намагацца пераадольваць гэтыя й іншыя цяжкасьці ў рэдакцыйнай працы ды выдаваць "Царкоўнага Пасланца" як доўга зможам служыць нацыянальнай патрэбе на яго ды мець ад Вас маральнае й матарыяльнае падтрыманьне.

Патрэба-ж на "Царкоўнага Пасланца", як адзіны друкаваны голас за ўзнаўленьне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне, надоўга яшчэ ў нашым нацыянальным жыцьці будзе непазбытнай й незаменнай.

Бо, калі з гэтага слабога яшчэ голасу, як зь іскры ня ўздымецца хваля навагі й энтузыязму да адбудовы роднае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне, наш незалежніцкі рух патрывае нядоўга.

Сьветчаньнем на гэта мінулае дзесяцігодзьдзе, калі справа рэлігійна-нацыянальнага духовага поваду была адраджэнскім актывам няўважаная, або здадзеная ў карыстаньне чужынскім дзейнікам.

Вынікам гэтае няцямнасьці была нацыянальная катастрофа, зь якое, нажаль, нашыя палітыкі яшчэ мала навучыліся, але вялікая колькасьць пабожных праваслаўных патрыётаў на Бацькаўшчыне здабыла перакананьне, што без свае Царквы ня можа быць свае дзяржавы ды імкнецца гэтую праўду абярнуць у жыцьцё.

Дзякуй Богу, знаходзяцца й дабрадзеі, што іхнымі ахвярамі на "Царкоўнага Пасланца" зза мяжы падтрымоўваюць гэтае змаганьне ды да яго далучаюцца.

На гэты нумар "Царкоўнага Пасланца" гэткія ахвяры былі ласкавыя прыслаць: М. Белемук - 5 д., Ул. Брэдзелеў - 30 д., А. Войтэнка - 50 д., Р. Галяк - 100 д., Б. Данілюк - 50 д., Р. Данілюк - 1о5 д., а. архім. А. Драздоўскі - 20 д., В. Кажан - 20 д., Ю. Касьцюкевіч - 100 д., а. В. Кендыш - 50 д., Я. Крэсла 20 д., Ул. Курыла - 50 д., В. Лосік - 20 д., К. Макаед - 20 д., А. Падлескі - 30 д., др. М. Смаршчок - 30 д., а. М. Страпко - 30., а. М. Таўпека - 20 д., В. Цярпіцкі - 20 д., В. Штробэль - 50 д., І. Якунін - 50 д., С. Янкоўскі - 10 д., О. Яськевіч - 50 даляраў.

Усім вышэй пералічаным дабрадзеям шчыра дзякуем за іхную ахвярнасьць ды запэўніваем, што вылажаная друкам дзякуючы іхнай шчодрасьці ідэя ўзнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне будзе там шырака распаўсюджаная.

Да тых-жа чытачоў у замежжы, што дапамогай нашаму часапісу дасюль не падтрымалі справу ўзнаўленьня БАПЦ на Беларусі, зварочваемся яшчэ раз з просьбай зрабіць гэта прысылаючы ахвяру ўжо на наступны нумар.

Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца"

NONPROFIT ORG.
U.S. POSTAGE
PAID
SOMERSET, N.J.
PERMIT NO. 44